# ЗМЕСТ

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**21 жніўня** была прынятая **Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N810 *«Аб экспертных камісіях па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці (адсутнасці) ў ёй прыкмет праявы экстрэмізму».*** Гэтым дакументам былі зацверджаныя Палажэнне аб Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі што да наяўнасці (адсутнасці) у ёй прыкмет праяўлення экстрэмізма і склад камісіі. Акрамя таго, было рэкамендавана аблвыканкамам зацвердзіць па ўзгадненні з Рэспубліканскай экспертнай камісіяй Палажэнні аб адпаведных абласных экпертных камісіях. У верасні створаная Рэспубліканская камісія па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі што да наяўнасці (адсутнасці) у ёй прыкмет праяўлення экстрэмізма пры Міністэрстве інфармацыі. Такія самыя камісіі створаныя пры абласных тэрытарыяльных органах улады. Рашэнні гэтых камісій могуць даваць падставу для прыцягнення да адказнасці і знішчэння інфармацыйных матэр'ялаў – і, як вынік, для ажыццяўлення цэнзуры.

**20 снежня** шляхам прыняцця ***Закона Рэспублікі Беларусь №213-3 "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі"*** былі ўнесеныя папраўкі у закон «Аб сродках масавай інфармацыі». Гэтыя папраўкі, прынятыя без якога-кольвек грамадскага абмеркавання, істотна ўзмацнілі жорсткасць дзяржаўнага кантроля над інфармацыйнай прасторай; у прыватнасці:

- Распаўсюдзілі адміністрацыйныя паўнамоцтвы Міністэрства інфармацыі (аж да прымянення санкцыяў і зачынення медыяў) на Інтэрнэт-рэсурсы;
- Пагоршылі ўмовы дзейнасці традыцыйных медыяў;
- Узмацнілі кантроль над распаўсюджвальнікамі сродкаў масавай інфармацыі.

Можна вылучыць наступныя асноўныя змены ў прававым рэгуляванні СМІ:

1. Дзеянне Закона аб СМІ, за выключэннем патрабаванняў аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі, распаўсюджана на тыя *«інфармацыйныя рэсурсы (іхныя складнікі), размешчаныя ў глабальнай капутарнай сетцы Інтэрнэт, праз якія ажыццяўляецца распаўсюджванне прадукцыі сродка масавай інфармацыі»*. У адсутнасці азначэння, якія менавіта *«інфармацыйныя рэсурсы (іхныя складнікі), размешчаныя ў глабальнай капутарнай сетцы Інтэрнэт»*, распаўсюджваюць прадукцыю СМІ і трапляюць пад дзеянне закона, правапрымяняльнікі на ўласнае меркаванне могуць ужываць ягоныя нормы фактычна да любых Інтэрнэт-рэсурсаў, нават незалежна ад таго, ці тыя прызнаюцца сродкамі масавай інфармацыі ў краінах знаходжання (напрыклад, у Расіі).
2. У выніку змянення азначэння тэлерадыёвяшчання (цяпер вядзецца аб вяшчанні тэле- і радыёпраграмы) патрабаванні да вяшчацеляў могуць быць распаўсюджаныя таксама на Інтэрнэт-тэлебачанне альбо радыё.
3. У закон уведзенае паняцце *«уладальнік інфармацыйнага рэсурса (ягонага складніка) ў выпадку распаўсюджання прадукцыі сродка масавай інфармацыі случае распространения продукции средства массовой информации пры дапамозе інфармацыйнага рэсурса (ягонага складніка), размешчанага ў глабальнай кампутарнай сетцы Інтэрнэт».* Пры гэтым уладальнік Інтэрнэт-рэсурса разглядаецца не як рэдакцыя СМІ, а як распаўсюджвальнік прадукцыі СМІ.

4. На ўладальнікаў Інтэрнэт-рэсурсаў распаўсюджаны абавязак публікацыі абвяржэнняў. Для апублікавання абвяржэння і выдалення матэр'ялаў, што абвяргаюцца, устаноўлены аднаднеўны тэрмін.
5. Уладальнік Інтэрнэт-рэсурса абавязаны не дапускаць выкарыстання гэтага рэсурса для распаўсюджвання інфармацыі, змест якой супярэчыць патрабаванням Закона аб СМІ (г.з. адсочваць каментарыі). Такім чынам, з'яўляецца магчымасць прыцягваць да адказнасці аж да блакавання Інтэрнэт-рэсурсаў. (Гэта супярэчыць палажэнням п. 12 Указа № 60 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, адпаведна якому адказнасць за змест інфармацыі, што размяшчаецца (перадаецца) ў нацыянальным сегменце сеткі Інтэрнэт, нясуць асобы, што размясцілі (перадалі) гэтую інфармацыю). Пры гэтым у Законе дакладна не пазначана, якія дзеянні і ў якія тэрміны мусіць здзейсніць уладалтнік Інтэрнэт-рэсурса, каб пазбегнуць адказнасці за размешчаны каментар, што надае правапрымяняльнікам вялікія магчымасці для выкарыстання сваіх паўнамоцтваў.
6. Міністэрства інфармацыі атрымала права выносіць папярэджанні ўладальнікам Інтэрнэт-рэсурсаў і іншым распаўсюджвальнікам прадукцыі СМІ на тых жа падставах, што і рэдакцыі СМІ.
7. У законе з'явіўся арт. 51-1 «Абмежаванне доступу да прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, якая распаўсюджваецца пры дапамозе інфармацыйнага рэсурса (ягонага складніка), размешчанага ў глабальнай кампутарнай сетцы Інтэрнэт» -- аб блакаванні Інтэрнэт-рэсурсаў. З гэтага артыкула вынікае, што блакванне ажыццяўляецца Міністэрствам інфармацыі ў пазасудовым парадку цягам трохмесячнага тэрміну паля размяшчэння мтэр'яла; нічога не гаворыцца пра магчымасць судовага абскарджвання факта блакавання. Акрамя Міністэрства інфармацыі, патрабаваць ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб СМІ могуць таксама іншыя дзяржаўныя органы. Блакавацца могуць не толькі рэсурсы беларускага сегмента Інтэрнэта, але таксама сайты, што знаходзяцца па-за ягонымі межамі. Блакаванне магчымае нават за адно парушэнне.
8. Неакрэслена пашыраны пералік інфармацыі, забароненай да распаўсюджвання ў СМІ, – дададзена *«…інфармацыя, распаўсюд якой здольны нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь»*. Гэты пералік з'яўляецца падставай для прымянення да СМІ санкцыяў аж да закрыцця, а таксама для блакавання Інтэрнэт-рэсурсаў.
9. Доля замежнага ўдзелу ў статутным фондзе СМІ зменшаная з 30% да 20%. Гэта палажэнне не тычыцца тых рэдакцыў СМІ, якія былі зарэгістраваныя да ўнясення паправак у Закон аб СМІ.
10. Закон уводзіць Дзяржаўныя рэестры распаўсюджвальнікаў друкаваных СМІ і распаўсюджвальнікаў прадукці тэлевізійных і радыёвяшчальных СМІ і прымяненне да распаўсюджвальнікаў санкцыяў, аб якіх вядзецца ў Законе аб СМІ (аж да пазбаўлення права распаўсюджваць СМІ).
11. Павялічаны тэрмін прыпынення выпуска СМІ Міністэрствам інфармацыі -- ад 3 да 6 месяцаў.
12. Павялічаны тэрмін, цягам якога Міністэрства інфармацыі мае прад'явіць пазоў аб спыненні выпуска СМІ. Калі раней судовае рашэнне аб спыненні выпуска СМІ мелася прымацца не пазней, чым у трохмесячны тэрмін ад дня, калі было вынесенае другое цягам году папярэджанне рэдакцыі альбо заснавальніку друкаванага СМІ (альбо аднаразовага парушэння палажэнняў закону

тэлерадыёвяшчальнымі СМІ і д т. п.), дык цяпер зыск аб спыненні выпуска СМІ можа быць пад'яўлены не пазней за шэсць месяцаў ад дня, калі ўзніклі для яго падставы.

Агульную адзнаку дапаўненням і змяненням у Закон аб СМІ дала Прадстаўнік АБСЭ Дуня Міятавіч: «Гэтыя папраўкі заснаваныя на неакрэслена сфармуляваных прававых палажэннях і надаюць дзяржаве шырокія правы для ўмяшальніцтва ў размяшчэнне любой інфармацыі ў Інтэрнэце. Таксама яны прымушаюць распаўсюджвальнікаў задзейнічаць самацэнзуру».

**28 снежня** быў падпісаны **Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 6** ***«Аб неадкладных мерах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў».*** Паміж іншым ён закранае дзейнасць інфармацыйных рэсурсаў, якія ў адпаведнасці з новай рэдакцыяй Закона аб сродках масавай информации могуць быць аднесеныя да СМІ. Палажэнні Дэкрэта ўтрымліваюць наступныя, матываваныя неабходнасцю супрацьдзеяння незаконнаму абароту наркотыкаў, новаўвядзенні, якія пагражаюць як свабоднаму распаўсюджванню інфармацыі, так і свабоднаму доступу да яе:

1. Абавязак уладальнікаў Інтэрнэт-рэсурсаў адсочваць кантэнт.
2. Абмежаванне доступу да інфармацыйных рэсурсаў, што ўтрымліваюць паведамленні і (альбо) матэр’ялы, накіраваныя на незаконны абарот наркотыкаў, па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў, якое накіроўвае пісьмовае ўведамленне Міністэрству інфармацыі, якое, у сваю чаргу, мусіць прыняць адпаведнае рашэнне, абавязковае для ўсіх пастаўшчыкоў Інтэрнэт-паслуг на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь.
3. Адміністрацыйная адказнасць уладальнікаў інфармацыйных рэсурсаў за невыкананне уладальнікамі Інтэрнэт-рэсурсаў уведамленняў Міністэрства інфармацыі аб неабходнаці выдалення паведамленняў і (альбо) матэр’ялаў, накіраваных на незаконны абарот наркотыкаў. У якасці санкцыі прадугледжваецца налажэнне штрафа на фізічную асобу памерам ад пяці да двадцаці базавых велічыняў, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад дваццаці да пяцідзесяці базавых велічыняў, а на юрыдычную асобу – да ста базавых велічыняў.
4. Татальны кантроль над наведвальнікамі Інтэрнэт-рэсурсаў: з 1 студзеня 2016 г. патаўшчыкі Інтэрнэт-паслуг абавязаныя забяспечвацт фарміраванне і захоўванне актуальных звестак пра наведваемыя карыстальнікамі Інтэрнэт-паслуг інфармацыйныя рэсурсы ў парадку, што вызначае Міністэрства сувязі і інфарматызацыі. Невыкананне гэтых абавязкаў цягне за сабой адміністрацыйную адказнаць у выглядзе штрафа (памерам ад дваццаці да пятідзесяці базавых велічыняў для фізічнай асобы; ад пяцідзесяці да ста базавых велічыняў для індывідуальнага прадпрымальніка, да двухсот базавых велічыняў для юрыдычнай асобы).

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў ГАЛІНЕ СМІ

## 1. Судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

### 1.1. Крымінальныя справы

**7 лютага** пракуратура г. Бабруйска ўзбудзіла крымінальную справу па арт. 369 Крымінальнага кодэкса РБ ("Публічная абраза прадстаўніка ўлады ў звязку з выкананнем ім службовых абавязкаў"). У паведамленні УУС Магілёўскага аблвыканкама вядзецца, што цягам 2012-2013 гг на персанальным сайце "Блог Олега Желнова" ды іншых Інтэрнэт-рэсурсах быў апублікаваны шэраг абразлівых матэрыялаў у дачыненні супрацоўніка міліцыі. Права ўзбуджаная ў адносінах неўстаноўленай асобы. Сам А. Жалноў расцаніў факт узбуджэння крымінальнай справы як ціск на яго за блогерскую актыўнасць.

**5 мая** супраць Алега Жалнова была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 340 Крымінальнага кодэкса ("Заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы"). Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы быў эпізод, што адбыўся **4 лютага** 2014 г. Тады А. Жалноў ішоў на прыём Упраўленне унутраных справаў і па патрабаванні супрацоўніка міліцыі быў вымушаны здаць у камеру захоўвання ўсе свае рэчы. Іранічную заўвагу блогера, што брэлок аўтасігналізацыі можа ўзарвацца, калі нагрэць яго да пэўнай тэмпературы, было супрацоўнікам УУС расцэненае як «заведама ілжывае паведамленне, што рыхтуецца выбух».

**23 мая** у кватэры А. Жалнова ў межах пазначанай справы адбыўся ператрус, у выніку якога ў блогера былі вынятыя практычна ўсё электронныя носьбіты інфармацыі: нэтбук, мабільны тэлефон, відэарэгістратар, чатыры цвёрдыя дыскі, розныя карты памяці -- усяго 12 найменняў.

Пазней справа была прыпыненая Міжраённым аддзелам Бабруйскага Следчага камітэта. (Гл. таксама “Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед”).

**18 ліпеня** суд г. Бабруйска прызнаў 25-гадовага Аляксея Жалнова, сына Алега Жалнова, вінаватым у парушэнні арт. 364 Крымінальнага кодэкса («Гвалт альбо пагроза прымянення гвалту ў адносінах да супрацоўніка органаў унутраных спраў») і асудзіў яго на тры гады папраўчай калоніі адкрытага тыпу. Таксама Жалноў-малодшы мусіць выплаціць 50 млн. рублей (каля 3,5 тыс. еўра) у якасці кампенсацыі маральнай шкоды.

Крымінальная справа была ўзбуджаная ў **студзені 2014 г.** Аляксея Жалнова абвінавацілі ў тым, што 4 верасня 2013 г., калі яго разам з бацькам затрымлівалі супрацоўнікі ДАІ УВД Бабруйскага гарвыканкама (як лічаць праваабаронцы -- незаконна), ён нанёс лёгкія цялесныя пашкоджанні капітану міліцыі Аляксандру Бутоўскаму (быццам бы ўдарыў яго па галаве).

***4 верасня 2013 г.*** *блогер Алег Жалноў разам з сынам Аляксеем выпадкова стаў сведкам парушэння правілаў дарожнага руху работнікамі міліцыі – няправільнай паркоўкі на ходніку. Ён зафіксаваў гэты факт на відэакамеру і звярнуўся з заявай да супрацоўнікаў ДАІ, якія знаходзіліся побач. У выніку парушэнне правілаў дарожнага руху работнікамі ДАІ зафіксавана не было, а бацьку і сына Жалновых -- затрымалі.*

*Міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» выказала пратэст ў сувязі з гэтым прысудам Бабруйскага суда. «Не маючы магчымасці прымусіць Алега Жалнова*

*(блогера, які займаецца выкрыццём парушэнняў мясцовых органаў улады) маўчаць, улады сканцэнтраваліся на ягоным сыне», -- заўважыла Ехан Бір, кіраўнік бюро «Рэпарцёраў без межаў» у краінах Сярэдняй Азіі і Усходняй Еўропы. «Мы шкадуем аб гэтым рашэнні, якое пакідае беспакаранай мясцовую міліцыю, і звяртаемся да суду перагледзець рашэнне падчас апеляцыі». Тым не менш, касацыйная і наглядныя інстанцыі пакінулі прысуд у адносінах да сына блогера ў сіле.*

**19 чэрвеня** у адносінах да 68-гадовай грамадзянскай актывісткі Кацярыны Садоўскай была заведзеная крымінальная справа за "абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (ч. 2 арт. 368 Крымінальнага кодэкса). Падставай для крымінальнага пераследу стаў запіс, які К. Садоўская пакінула 28 красавіка 2014 г. у Кнізе заўваг Савецкага райсуда Мінска – аб неабгрунтаваных затрыманнях грамадзянскіх актывістаў падчас правядзення ў Мінску чэмпіяната свету па хакеі. Па меркаванні следства, той запіс утрымліваў "у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь абразлівыя выразы і заведама ілжывыя, зневажаючыя, аб’яднаныя з абвінавачваннем у здзяйсненні цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў звесткі". Ч. 2 арт. 368 УК прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафа альбо папраўчых работ на тэрмін да 2 год, альбо абмежаванне волі на тэрмін да 2 год, альбо пазбаўленнне волі на той самы термін.

Справа супраць К. Садовской была спыненая ў ліпені 2014 г. Садоўская прызнала сваю віну і патрапіла пад дзеянне закона аб амністыі яшчэ да суду.

***У 2006 г.*** *К. Садоўская ўжо была прызнаная вінаватай у парушэнні ч. 2 арт. 368 КК РБ. Тады абраза прэзідэнта палягала, па меркаванні суда, у тым, што Садоўская патрабавала правесці псіхіятрычную экспертызу кіраўніка дзяржавы. Яе таксама прызналі вінаватай па арт. 389 («Пагроза ў адносінах да суддзі альбосудовага засядацеля») і арт. 391 («Абраза суддзі альбо судовага засядацеля»). Ленінскі райсуд Мінска прысудзіў К. Садоўскую да двух гадоў калоніі. Жанчыну вызвалілі ўмоўна-датэрмінова ў маі 2007 г. "за ўзорныя паводзіны".*

**9 верасня** стала вядома, што жыхар Гродна заплаціў 3 млн. рублей у якасці кампенсацыі маральнай шкоды за абразу супрацоўніка мытні. Нагодай для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць яго стаў інтэрнэт-каментар. Паводле паведамлення прэсавай службы Мытнага камітэта РБ, **24 чэрвеня** блог “Гродно S.13.ru” перадрукаваў з сайта Onliner.by артыкул "Канфлікт на мяжы: гарадзенец вяртаўся з польскай Ikea з пакупкамі і лічыць, што мытнікі незаконна ўзялі з яго грошы". Пад публікацыяй аўтар пад нікам Yunek пакінуў каментар, у якім ўзгадаў кіраўніка аддзела мытнага афармлення і кантроля Мытнага паста № 2 Брузгі. Узгаданы супрацоўнік мытні звярнуўся ў праваахоўныя органы, і падчас расследвання Кастрычніцкі РАУС г. Гродна высветліў асобу аўтара каментара.

**4 жніўня** Кастрычніцкі раённы суд Гродна прыняў заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы па арт. 189 КК «Абраза». Падчас судовага разбіральніцтва аўтар каментара прызнаў сваю віну. Ён выплаціў 3 млн. рублей (грошы зыскоўца накіраваў на дабрачынныя мэты), а таксама публічна выбачыўся праз гарадскую газету, пасля чаго, **27 жніўня,** крымінальная справа была спыненая за прымірэннем бакоў.

**5 лістапада** ў Мінску супрацоўнікі Камітэта дзяржбяспекі затрымалі аглядальніка штотыднёвіка “Беларусы і рынак” ваеннага аналітыка Аляксандра Алеіна і памясцілі яго ў следчы ізалятар КДБ. У той жа дзень у катэры журналіста быў праведзены вобшук. Журналісцкая супольнасць даведалася пра затрыманне калегі **4 снежня**. Прэс-служба КДБ адмаўлялася каментаваць гэтае затрыманне. **8 снежня** сваякі Аляксандра Алесіна са спасылкай на КДБ паведамілі, што яму было прад’яўленае абвінавачванне ў здрадзе дзяржаве (арт. 356 Крымінальнага кодэкса) і наладжванні супрацоўніцтва са спецыяльнай службай органаў бяспекі альбо разведвальным органам замежнай

дзяржавы (арт. 356-1 КК). Сваякі таксама паведамілі, што А. Алесін не з’яўляўся асноўным падазраваным (асноўны фігурант – неназваны замежны дыпламат). **10 снежня** А. Алесіна вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе у сувязі з раптоўным пагаршэннем стану здароўя. Абвінавачванне ў здрадзе дзяржаве з яго знялі і цяпер абвінавачваюць толькі ў супрацоўніцтве з замежнай спецслужбай.

## 1.2. Грамадзянскія справы

**8 студзеня** журналісты крычаўскай малатыражнай газеты "Вольны горад" атрымалі копію пастановы прэзідыума Магілёўскага абласнога суда, у якой паведамлялася, што рашэнне суда Крычаўскага раёна па зыску камунальнага прадпрыемства “Чэрыкаўская перасоўная механізаваная калона №280" супраць "Вольнага горада" адменена, а вытворчасць па справе спыненая, таму што справы аб абароне дзелавой рэпутацыі ў галіне гападарчай дзейнасці непадведамасныя агульным судам.

***17 чэрвеня** 2013 г. Крычаўскі раённы суд прызнаў распаўсюджаныя ў газеце (№4 ад 3 лютага 2013 г.) ў артыкуле "Прыгонныя" звесткі адносна КУП "Чэрыкаўская ПМК №280" не адпавядаючымі рэчаіснасці і абавязаў выданне апублікаваць абвяржэнне.*

**21 студзеня** суд Фрунзенскага раёну Мінска адмовіў уладальніку гандлёвай сеткі "Евроопт" (ТАА "Евроторг") ў задавальненні зыска аб абароне дзелавой рэпутацыі. Суадказчыкамі ў гэтым судовым працэсе выступалі некалькі беларускіх медыярэсурсаў і журналістаў, а таксама старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзімір Карагін, чые словы былі распаўсюджаныя ў СМІ. ТАА "Евроторг" патрабавала ад адказчыкаў абвергнуць выказванні В. Карагіна, зробленыя 24 чэрвеня 2013 г. падчас паседжання круглага стала па праблеме рэйдарскіх захопаў прадпрыемстваў.

Сярод суадказчыкаў па спаве праходзілі Інтэрнэт-партал TUT.by, Інтэрнэт-газета "Ежедневник", а таксама журналісты Дзмітры Заяц і Сяргей Сацук, якія рыхтавалі публікацыі па выніках круглага стала.

**27 студзеня** калегія Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь адхіліла зыск дырэктара прыватнага гандлёвага прадпрыемтва “БЕЛСАТ плюс" Андрэя Белякова да польскай кампаніі Telewizja Polska (SA TVP) – заснавальніка тэлеканалу "Белсат ТВ". Зыскоўца сцвярджаў, што тэлеканал "Белсат" незаконна выкарыстоўвае таварны знак і патрабаваў, каб спадарожнік "Astra" спыніў трансляцыю канала "Белсат ТВ". Суд вырашыў, што А. Белякоў не прадставіў доказаў парушэння выключнага права на таварны знак "Белсат" на тэрыторыі Беларуси.

**21 чэрвеня** афіцыйны прадстаўнік тэлеканала "Белсат" у Беларусі Міхась Янчук атрымаў уведамленне аб тым, што намеснік старшыні Вярхоўнага суда Аляксандр Федарцоў апратэставаў гэтае рашэнне калегі ў Прэзідыум Вярхоўнага суда.

**24 чэрвеня** Прэзідыум Вярхоўнага суда разгледзеў пратэст з удзелам бакоў справы. Андрэй Белякоў сцвярджаў, что ягоная кампанія "БЕЛСАТплюс", якая займаецца продажам абсталявання для спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання, быццам бы церпіць страты праз падабенства назвы з назвай тэлеканала. Міхась Янчук, у сваю чаргу, сцвярджаў, што назва і лагатып тэлеканала "Белсат" зарэгістраваныя ў Польшчы ў 2006 годзе, і правы А. Белякова не парушаныя. Прэзідыум ВС у выніку

прыняў рашэнне аб адмене судовага рашэння ад 27 студзеня і накіраванні справы на новы разгляду сувязі з быццам бы недастатковым вывучэннем доказаў па справе.

**4 верасня** судовая калегія па інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда скончыла паўторны разгляд справы. Гэтым разам судовая калегія пад старшынствам Галіны Глухоўскай стала на бок зыскоўцы. Вярхоўны Суд забараніў выкарыстанне "Польскім тэлебачаннем" назвы "БЕЛСАТtv BELSAT" пры трансляцыі на тэрыторыю Беларусі і на старонках сайта тэлеканала, даступных карыстальнікам Байнэта. Такама суд пастанавіў спагнаць на карысць Андрэя Белякова 9 млн. 998 тыс. 800 рублей (каля 740 еўра). Прадстаўнікі тэлеканала прыцягвалі ўвагу суда, што "Telewizja Polska S.A" не вядзе ніякай гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі і такім чынам не можа парушаць правы А. Белякова. Кіраўніцтва тэлеканала назвала рашэнне Вярхоўнага Суда Беларусі палітычна матываваным.

**4 лютага** ў Ленінскім раённым судзе г. Гродна прайшло слуханне па зыску аб абароне гонару і годнасці супраць журналістаў дзяржаўнага тэлеканала "Гродна плюс". Зыск у суд накіравала Ірына Салей, маці гродненскага фотажурналіста Аляксея Салея. Нагодай стаў відэасюжэт, які выйшаў у снежні 2013 г. – аб затрыманні супрацоўнікмі міліцыі падазраванага ў згвалтаванні. Пасля дэманстрацыі моманта затрымання буйным планам быў паказаны плакат з фотавыявай Аляксея Салея. Такім чынам, у кантэксце ў гледачоў складвалася ўражанне, што затрыманы менавіта Аляксей Салей. Ірына Салей назвала сюжэт «правакацыяй» і запатрабавала ад журналістаў абласнога дзяржтэлеканала кампенсацыю маральнай шкоды.

Відэааператар Сяргей Печарыца і аўтар сюжета Галіна Давыдзік сцвярджалі, што фота А. Салея патрапіла ў відэарадок выпадкова – здымкі ажыццяўляліся ў калідоры аддзялення міліцыі, дзе на сцяне вісеў плакат "Іх вышуквае міліцыя". Пасля таго, як журналісты і прадстаўнік тэлеканалу прызналі сваю памылку і выказалі намер прынесці прабачынні, І. Салей адмовілася ад сваіх зыскавых патрабаванняў.

*Незалежны фотажурналіст, сябра ГА "БАЖ" Аляксей Салей афіцыйна знаходзіцца ў вышуку. Яго неаднаразова пераследвалі за прафесійную дзейнасць, а ў маі 2011 г. Супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа нібыта за выраб і распаўсюд парнаграфічных матэр'ялаў. Пасля гэтага журналіст з'ехаў з Беларусі.*

**10 сакавіка** раённы суд г. Горкі (Магілёўская вобласць) пачаў разгляд зыска старшыні Горэцкай раённай арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў (ГА «БелТІ») Тамары Калтуновай да рэдакцыі мясцовай незалежнай газеты "УзГорак", інфармацыйнай кампаніі БелаПАН і яе журналіста Ўладзіміра Лапцэвіча. Зыскоўца палічыў, што передрукаваныя "УзГоркам" матэр'ялы БелаПАН з адчыненых паседжанняў суда 2013 г. Аб іншай справе з удзелам Т. Калтуновай утрымліваюць паклёпніцкія звесткі, и запатрабаваў спагнаць з рэдакцыі 50 млн. рублей. (*У 2013 г. карэспандэнт БелаПАН В. Лапцевіч авятляў судовы працэс паміж Т. Калтуновай і сябрамі раённай арганізацыі таварыства інвалідаў, якіх яна такама абвінавачвала ў паклёпе).*

**18 снежня** суд Горацкага раёна пастанавіў спагнаць з выдаўца незалежнай рэгіянальнай газеты «УзГорак", інфармацыйнага агенства БелаПАН і яго журналіста Ўладзіміра Лапцевіча ў салідарным парадку 6 млн рублей у якасці кампенсацыі маральнай шкоды старшыні Горацкай раённай арганізацыі БелТІ Тамары Калтуновай. Адказчыкі таксама обавязаныя сплаціць судовыя выдаткі, якія панесла зыскоўца. На судовае паседжанне ні сама Т. Калтунова, ні яе абаронца не прыйшлі. У судзе выступілі сведкі з боку адказчыкаў, якія падцвердзілі, што размешчаная ў перадрукаваных "УзГоркам" матэр'ялах БелаПАН інфармацыя сапраўды дакладна передае іх словы і меркаванні, выказаныя на судовым працэсе паміж сябрамі раённай арганізацыі таварыства інвалідаў і старшынёй Горацкай раённай арганізацыі БелТІ Тамарай

Калтуновай напрыканцы 2013 года. Нягледзячы на гэта, суддзя Яскевіч прыйшоў да высновы, што ў журналісцкіх матэр'ялах мела месца знявага гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі Т. Калтуновай.

**6 чэрвеня** суд Ленінскага раёну Брэста адхіліў зыск Сяргея Іванюковіча аб абароне гонару і дзелавой рэпутацыі і разгалошванні ўрачэбнай таямніцы супраць незалежнага выдання "Брестская газета". Зыскоўца патрабаваў спагнаць з рэдакцыі і яе журналістаў Марты Мартынюк і Дзмітрыя Басака па 30 млн. рублёў. Па просьбе заяўніка судовы працэс слухаўся ў зачыненым рэжыме. У выніку разгляду справы суд пастанавіў адхіліць зыск.

**4 жніўня** суд Брэсцкай вобласці адхіліў касацыйную скаргу зыскоўцы. Як і ў судзе першай інстанцыі, слуханне праходзіла ў зачыненым рэжыме, таму падрабязнасці судовага працэса не паведамляюцца.

**8 снежня** суд Крычаўскага раёну прыняў рашэнне часткова задаволіць зыск аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральнай шкоды кіраўніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама Марыны Максімавай да незалежнай рэгіянальнай газеты "Вольны горад", яе выдаўцу Уладзіміру Кудраўцаву, рэдактару Сяргею Няроўнаму і журналісту Мікалаю Гердзію. Суддзя Алена Азаранка пастанавіла спагнаць з адказчыкаў кампенсацыю за нанесеную Марыне Максімавай маральную шкоду ў памеры 7 млн рублей, а таксама выдаткі на дзяржпошліну і прадстаўніка ў судзе -- агулам 4 млн 50 тыс. рублёў. Падставай для зыска стаў артыкул "Не ў сваім крэсле?", размешчаны 14 верасня 2014 г. на Інтэрнэт-сайце газеты "Вольны горад" і ў друкаваным нумары выдання. Артыкул быў пра тое, што аддзел ідэалогіі райвыканкама і мясцовая раённая газета «Крычаўскае жыццё» не надаюць належнай увагі наступствам абвала будынку актавай залы і сталовай мясцовай гімназіі. Адносна М. Максімавай вялося, што яна ў «ідэалагічнай працы разбіраецца, як вядомая жывёла ў апельсінах».

## 2. Затрыманні, судовы адміністрацыйны пераслед журналістаў і блогераў

**20 студзеня** ў Віцебску галоўнага рэдактара недзяржаўнай газеты "Віцебскі кур'ер" Алега Баршчэўскага затрымалі супрацоўнікі міліцыі, сказаўшы, што падазраюць у падробцы пасведчання кіроўцы. Некаторы час Баршчэўскі знаходзіўся ў Кастрычніцкім РУУС Віцебска. Ва ўпраўленне міліцыі прыязджалі прадстаўнікі падатковых органаў, якія ўзялі з яго пісьмовы абавязак падаць падатковую дэкларацыю да 11 лютага.

**4 лютага** у Бабруйску амаль на 12 гадзін затрымалі блогера Алега Жалнова – нібыта па падазрэнні ў падрыхтоўцы выбуху. Той раніцай Жалноў, накіроўваючыся на прыём да начальніка Бабруйскага міжраённага аддзела Следчага камітэта, мусіў здаць дзяжурнаму ў камеру захоўвання асабістыя рэчы, сярод якіх -- аўтабрэлок. З нейкіх прычын дзяжурны вырашыў, што аўтабрэлок ёсць дыстанцыйным кіраваннем для выбуховага прыстасавання. Жалнова абшукалі, змясцілі ў камеру, затым адвялі да следчага і сталі праводзіць аператыўна-следчыя мерапрыемствы. Пазней блогера адпусцілі з фармулёўкай: "Беручы пад увагу, што адпалі падставы для далейшага утрымання пад вартай". Усе носьбіты інфармацыі, што былі ў Жалнова пры сабе -- тры флэш-карткі, тры тэлефоны без сімі-картак і 3G мадэм – засталіся ў УУС. *(гл. таксама "Крымінаьныя справы")*.

**5 лютага** у г. Міёры (Вицебкая вобл.) міліцыя затрымала тэлежурналістаў Сяргея Кручкова, Настассю Рэзнікаву і аператара Аляксандра Пацеева, якія прыехалі падрыхтаваць матэр'ял пра надзённую праблему мясцовых жыхароў – адключэнні на тыдзень цяпла ў кватэрах пры мінусавой тэмпературы на вуліцы. Праваахоўнікі заявілі, што здымачная група знаходзіцца ў забароненай зоне воіннскіх вучэнняў і затрымалі "для высвятлення асобаў". У Міёрскім РАУС у журналістаў узялі тлумачэнні і настойліва парэкамендавалі выехаць з Міёраў -- папярэдзілі, што ў выпадку наступных намаганняў нешта зняць у журналістаў будуць больш сур'ёзныя праблемы – і суправадзілі да межаў гораду.

**2 сакавіка** у Мінску каля пасольства Расіі былі затрыманыя журналісты, якія збіраліся асвятляць акцыю пратэста супраць расійскай інтэрвенцыі на тэрыторыю Украіны. Яшчэ да пачатку акцыі міліцыянеры затрымалі Ўладзіміра Грыдзіна, Ірыну Арэхоўскую, Васіля Сямашку, Сяргея Гапона, Арцёма Ляву і Яўгена Ярчака і даставілі іх ў Цэнтральнае РУУС. Па сведчаннях журналістаў, затрыманнямі кіраваў асабіста начальнік ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Барсукоў.

Карэспандэнтка «Радыё "Свабода" Іна Студзінская прыехала на месца правядзення акцыі прыкладна за 5 хвілін да пачатку (на той момант журналістаў ужо затрымалі). Па словах Студзінскай, калі яна пачала фатаграфаваць, як група мужчын у цывільным груба затрымлівае ўдзельніцу акцыі, жанчыну пажылага ўзросту, да яе падбеглі спецназаўцы. І. Студзінская прадэманстравала ім акрэдытацыю журналіста, выдадзеную МЗС Беларусі. У гэты момант падышоў А. Барсукоў і выказаў сумнеў у сапраўднасці дакумента. Спецназаўцы запатрабавалі, каб журналістка знішчыла зробленыя фатаздымкі, а потым схапілі яе і пацягнулі ў аўтазак. Студзінскую адвезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе ўжо знаходзіліся затрыманыя журналісты, якіх міліцыянеры называлі "прадажнымі", "нацыяналістамі" и "бэндэраўцамі". Вызвалілі журналістаў прыкладна праз паўтары гадзіны пасля затрымання.

**12 сакавіка** на чыгуначным вакзале ў Гомелі быў затрыманы журналіст Анатоль Гатоўчыц. Калі ён вёў бяседу з пасажырамі, што прыехалі з Украіны, да яго падышоў старшы прапаршчык міліцыі Кухарэнка і папрасіў прад'явіць дакументы. Гатоўчыц прадэманстраваў журналісцкае пасведчанне і пашпарт. Тым не менш, яго адвялі ў дзяжурную частку вакзала для праверкі дакументаў, паля чаго адпусцілі без складання пратаколу.

**12 сакавіка** журналістку Інтэрнэт-газеты "Бабруйскі кур'ер" Марыну Малчанаву выклікалі ў Бабрускае РУУС як асобу, у адносінах да якой вядзецца адміністрацыйны працэс за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (арт. 23.34 КоАП). Падставай для гэтага стала тое, што **6 сакавіка** журналістка па заданні рэдакцыі асвятляла антываенную акцыю, якую праводзілі ў Бабруйску мясцовыя актывісты. Ва ўпраўленні намеснік начальніка аддзела аховы і прафілактыкі Сяргей Рудзько апытаў журналістку і выпісаў павестку на 17 сакавіка – для складання адміністрацыйнага пратакола. **17 сакавіка** Марына Малчанава наведала Бабруйскае ГУУС, але адміністрацыйны пратакол так не быў афармлены. Супрацоўнік міліцыі, які вёў адміністрацыйны працэс, сказаў, што цяпер заняты і што зурналістку выклікаюць у іншы час, калі будзе такая неабходнасць. **3 красавіка** Марына Малчанава атрымала адказ на сваю скаргу на дзеянні дазнавацеля маёра Сяргея Рудзько, накіраваную ў пракуратуру. Журналістка палічыла, што міліцыянер пераследаваў яе за прафесійную дзейнасць. У адказе пракуратуры паведамлялася, што **19 сакавіка** у адносінах да журналісткі вынеслі пастанову аб спыненні справы. Між тым, пракуратура пакінула без увагі просьбу Марыны Малчанавай даследваць выкладзеныя ў яе заяве факты і разгледзець дзеянні дазнавацеля Сяргея Рудзько з гледзішча арт. 198 КК ("Перашкода законнай прафесійнай дзейнасці журналіста") і прыняць меры пракурорскага рэагавання.

**16 сакавіка** ў Мінску затрымалі незалежных журналістаў Наталлю Валакіду і Аляксандра Сіліча, якія асвятлялі перадвыбарчы пікет Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі каля Камароўскага рынка. У Савецкім РУУС у журналістаў перапісалі асабістыя дадзеныя і ніякіх іншых працэдур не праводзілі. У Алякандра Сіліча забралі відэакамеру. Пасля вызвалення тэхніку яму аддалі, але ўсе запісы, зробленыя падчас акцыі, былі выдаленыя, а карта памяці -- адфарматаваная. Н. Валакіду вызвалілі каля 14 гадзін, А. Сіліча -- а 14.30.

**17 сакавіка** Бабруйскі раённы суд аштрафаваў блогера Алега Жалнова на 45 базавых велічыняў (5 млн. 850 тыс. рублёў) за размешчаны на Youtube запіс з прыёма грамадзян службовай асобай. Дзеянні А. Жалнова суд кваліфікаваў як парушэнне арт. 23.4 КоАП ("Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню альбо патрабаванню службовай асобы падчас выканання ім службовых паўнамоцтваў"). Падставаю стаў відэазапіс, зроблены блогерам **30 студзеня** падчас яго візіту да начальніка Бабруйскага ГУУС Аляксандра Васіл'ева. Перад прыёмам дзяжурны па УУС запатрабаваў ад блогера здаць абсалютна ўсе ягоныя рэчы ў камеру захоўвання. Тым не менш, пазней у Інтэрнэце з'явіўся відэазапіс прыёма А. Жалнова начальнікам УУС. У выніку бабруйская міліцыя абвінаваціла блогера ў тым, што ён не выканаў патрабаванне дзяжурнага міліцыянера – не здаў усе сродкі аўдыё- і відэазапісу.

**3 красавіка** ў Гродна на сябраў БАЖ Віктара Сазонова, Уладзіміра Хільмановіча, а таксама праваабаронцу Рамана Юргеля склалі адміністрацыйныя пратаколы за правядзенне неанкцыяванага пікета (арт. 23.34 КоАП). Падставай стала тое, што **25 сакавіка** яны сфатаграфаваліся з беларускай і украінскай сімволікай у памятных месцах Гродна – і апублікавалі гэтыя здымкі ў Інтэрнэце. У гэты ж дзень суд Ленінскага раёна аштрафаваў кожнага з "пікетчыкаў" на 25 базавых велічыняў (3 млн. 735 тыс. рублёў).

**6 мая** Гродненскі абласны суд, разгледзеўшы касацыйныя скаргі Віктара Сазонава і Ўладзіміра Хільмановіча на пастанову аб вынясенні штрафаў за незаконнае пікетаванне, пакінуў рашэнне суда ў сіле. Падчас слухання праваабаронцы даводзілі юрыдычную абсурднасць рашэння райсуда і тлумачылі, что заканадаўства аб масавых мерапрыемствах не парушалася. Але суддзя Анатоль Заяц не прыняў да ўвагі аніякіх аргументаў.

**3 красавіка** суд Бабруйскага раёну прызнаў блогера Алега Жалнова вінаватым у парушэнні арт. 23.4 КоАП ("Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню альбо патрабаванню службовай асобы падчас выканання ёю службовых паўнамоцтваў") і аштрафаваў яго на 46 базавых велічыняў (6.900.000 рублёў). ***4 лютага*** *Алег Жалноў, ідучы на прыём да выконваючага абавязкі начальніка Бабруйскага аддзела Следчага камітэта, не сдаў дзяжурнаму УУС мабільныя тэлефоны, 3G мадэм і картку памяці.*

*Нагадаем, што* ***17 сакавіка*** *той жа суд аштрафаваў Алега Жалнова на 45 базавых велічыняў па аналагічным абвінавачванні.*

**4 красавіка** суд Ленінскага раёна Гродна прызнаў журналіста Аляксандра Дзянісава вінаватым ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (ч. 2 арт. 22.9 КоАП). Суддзя Юры Казакевіч аштрафаваў Дзянісава на 30 базавых велічыняў (4 млн. 500 тыс. рублёў). А. Дзянісава абвінавацілі ў тым, што ён зрабіў сюжэт пра прэм'еру п'есы "Фауст. Сны", які пазней быў паказаны ў эфіры тэлеканала "Белсат", тым самым быццам бы парушыўшы заканадаўства аб СМІ.

**3 мая** Гродненскі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу Аляксандра Дзянісава на пастанову Ленінскага раённага суда. Суддзя Анатоль Заяц пакінуў пастанову ў сіле.

**17 красавіка** незалежная віцебская журналістка Алена Сцяпанава наведала Кастрычніцкі РАУС Віцебска, куды напярэдадні была выкліканая па тэлефоне. Старшы інспектар аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Сяргей Вяракса хацеў атрымаць ад Сцяпанавай тлумачэнні адносна яе публікацыі "Віцебскія школьнікі адмаўляюцца вучыць гімн", размешчанай у студзені 2014 г. на сайце "Радыё "Свабода". Матэр'ял не быў падпісаны.

**3 мая** Алена Сцяпанава атрымала пісьмовае ўведамленне з Кастрычніцкага РАУС Віцебска аб тым, што адміністрацыйная справа, распачатая ў адносінах да яе ў **красавіку** супрацоўнікам РАУС Сяргеям Вяраксам, зачыненая. Пастановы аб спыненні справы Сцяпанавай не даслалі.

**9 мая** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнта «Радыё "Свабода" Валера Каліноўскага са здымачнай групай падчас працы ў прамым эфіры. Журналісты асвятлялі вулічныя гулянні каля культурна-спартовага комплекса "Мінск-Арэна". Карэспандэнт звярнуўся да прысутнага начальніка мінскага палку міліцыі спецыяльнага прызначэння з пытаннем, чаму міліцыя не рэагуе на тое, што людзі ўжываюць алкаголь у грамадскім месцы. У адказ міліцыянеры затрымалі журналістаў і адвезлі іх у Цэнтральнае РУУС, дзе ўзялі тлумачэнні, з якой мэтай яны знаходзіліся каля "Мінск-Арэны" і ў чым палягала іх праца. Адпусцілі журналістаў без складання пратаколаў прыкладна праз дзве гадзіны пасля затрымання.

**14 мая** бабруйскі блогер Алег Жалноў у чарговы раз быў аштрафаваны судом Бабруйскага раёну і г. Бабруйска на 50 базавых велічыняў за парушэнне арт. 23.4 КоАП ("Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню альбо патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёю службовых паўнамоцтваў"). "Непадпарадкаванне", па меркаванні супрацоўнікаў міліцыі, палягала ў тым, што **27 сакавіка** ў памяшканні УУС Бабруйскага гарвыканкама А. Жалноў не задў у камеру захоўвання "забароненыя рэчы", у прыватнасці, мабільны тэлефон. Сам А. Жалноў лічыў, што такіх патрабаванняў да яго ніхто не мог прад'яўляць, бо яны незаконныя.

**4 чэрвеня** ў Магілёўскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргі А. Жалнова на пастанову суда Бабруйскага раёну і г. Бабруйска ад 14 мая; пастанова была пакінутая ў сіле.

**17 мая** ў Брэсце незалежнага журналіста Яўгена Скрабца непадалёк ад яго дома затрымалі людзі ў цывільным, заявіўшы, быццам ён падобны да злачынцы. Для ўстанаўлення асобы журналіста адвезлі ў Ленінскі РАУС, дзе на яго склалі адміністрацыйны пратакол за "нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы" (арт.17.1 КоАП). Да суда -- да раніцы 19-га мая – Я. Скрабца пратрымалі ў ізалятары часовага ўтрымання.

**19 мая** ў Ленінскім раённым судзе Брэста прайшлі слуханні па справе Яўгена Скрабца. Пасля таго, як Я. Скрабец заявіў хадайніцтва аб допуску да судовага разбіральніцтва адваката, суддзя вырашыў перанесці працэс на 21 мая і вызваліў журналіста. Аднак супрацоўнікі міліцыі адразу заявілі, што зноў яго затрымліваюць і вязуць у аддзяленне. У выніку Яўгена Скрабца другі раз на дзень прывезлі ў суд, які прызначыў яму 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

**27 мая** Карэлічскі раённы суд разгледзеў справу Алеся Залеўскага, штатнага супрацоўніка Польскага грамадскага тэлебачання TVP, часткай якога з'яўляецца спадарожнікавы тэлеканал "Белсат". Журналіста абвінавацілі ў працы без акрэдытацыі на замежны СМІ. На падставе міліцэйскага пратаколу суд прызнаў журналіста вінаватым у парушэнні заканадаўства і аштрафаваў на 30 базавых велічыняў (каля 327 еўра) адпаведна арт. 22.9 КоАП РБ (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ).

**26 чэрвеня** Гродненскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу Алеся Залеўскага на пастанову Карэлічскага суду па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні. Паводле словаў Алеся Залеўскага, суддзя Віктар Кавальчук заявіў, что гэта ўжо не першая справа такога кшталту, таму ён лічыць парушэнне журналістам арт. 22.9 КоАП даказаным.

**28 мая** грамадскі актывіст з Бабруйска, мясцовы лідар Аб'яднанай Граадзянскай партыі Віктар Бузінаеў атрымаў па пошце ліст з Бабруйскага УУС. У лісце паведамлялася, што ў адносінах да яго была ўзбуджаная адміністрацыная справа і праводсзілася праверка па факце распаўсюджвання газеты "Новы Час". Справа была спыненая ў звязку з адсутнасцю ў дзеяннях Бузінаева складу правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 22.9 КоАП (незаконы выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Падставай для праверкі стала інфармацыя пра тое, што 7 мая на цэнтральным рынку горада актывіст распаўсюджваў газету "Новы Час". Усе неабходныя для рапаўсюду газеты дакументы у В. Бузінаева былі.

**16 чэрвеня** незалежнага гродненскага журналіста Андрэя Мялешку аштрафавалі на 30 базавых велічыняў за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі. Суддзя Кастрычніцкага раённага суду Гродна Дзмітры Кедаль прыйшоў да высновы, што, падрыхтаваўшы матэр'ял для "Беларускага Радыё Рацыя" (Польша), Андрэй Мялешка парушыў арт. 22.9 КоАП (незаконы выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Падставаю стала публікацыя, размешчаная 17 красавіка на сайце "Радыё Рацыя" і падпісаная псеўданімам Ігар Мікалаеў. Супрацоўнікі міліцыі на падставе сабраных імі сведчанняў сцвярджалі, што гэтая публікацыя была падрыхтаваная менавіта Мялешкам.

**25 жніўня** Гродненскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу Андрэя Мялешкі на пастанову ад 16 чэрвеня, згодна з якой журналіст быў аштрафаваны на на 4,5 млн. рублёў.

**25 ліпеня** ў Мінску невядомыя ў цывільным затрымалі на вуліцы грамадскага актывіста, журналіста незалежнай газеты "Новы час" Мікіту Броўку. Затрыманне адбылося каля 12.30, и да вечара нічога не было вядома пра месцазнаходжанне журналіста. Па словах М. Броўкі, пасля затрымання яго даставілі ва УУС Савецкага раёну Мінска, дзе знялі адбіткі пальцаў і правялі бяседу. Таксама журналісту прапаноўвалі адказаць на пытанні з выкарыстаннем дэтэктара ілжы, ад чаго ён адмовіўся. Пасля ў РУУС прыехаў ваенны камісар Мінскага раёну і ўручыў М. Броўку позву на медычнае абследаванне. Адпусцілі журналіста каля 18 гадзін.

**18 жніўня** магілёўскага журналіста-фрылансера Аляксандра Буракова выклікалі ў апорны пункт міліцыі ў якасці асобы, у дачыненні да якой вядзецца адміністрацыйны працэс за "Працу на земежнае СМІ без акрэдытацыі". Маёр Марозаў узяў у журналіста тлумачэнні наконт відэасюжэта, які выйшаў у эфір "Белсата" восенню 2013 года. У сюжэце вялося пра аварыйны стан дома №4 па вул. Будаўнікоў у Магілёве. Як вынікала з дакументаў адміністрацыйнай справы, якія паказалі А. Буракову, пасля выхада сюжета Упраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці зладзіла праверку і аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па ідэнтыфікацыі асобы. Фігурантам сюжета было прапанавана па фатаздымках апазнаць журналістаў, што з імі размаўлялі. У матэр'ялах справы прозвішча супрацоўніка КДБ, што праводзіў праверку, была зафарбаваная. Буракоў паведаміў міліцыянеру, што з "Белсатам" ён не супрацоўнічаў і не ведае, якім чынам ролік патрапіў на тэлеканал.

**19 жніўня** інспектар міліцыі Марозаў таксама апытаў назалежнага журналіста Міхаіла Аршынскага. Яму, у адрозненні ад Буракова, не паказалі матэр'ялаў заведзенай супраць яго адміністрацыйнай справы. Міліцыянер высвятляў, ці М. Аршынскі меў дачыненне да здымак сюжэта аб камунальных праблемах, і якім чынам гэты сюжэт

патрапіў на тэлеканал "Белсат". Журналіст не адмаўляў, што ўдзельнічаў у здымках, але патлумачыў, што не ведае, якім чынам сюжэт з'явіўся у эфіры "Белсата". Па словах М. Аршынскага, падчас бяседы інспектар сказаў, што ўказанне наконт правядзення праверкі прыйшло "з Минска, з Міністэрства".

**3 верасня** ў Минскў прыкладна а 18.30 недалёка ад станцыі метро «Каменная горка» супрацоўнікі міліцыі затрымалі здымачную групу незалежных тэлежурналістаў, якія асвятлялі працэс збору подпісаў грамадзянаў пад зваротам у пракуратуру датычна праверкі на эктрэмізм і забароны трансляцыі ў Беларусі расійскіх тэлеканалаў. Акцыю ладзілі актывісты аргкамітэту па стварэнні партыі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Затрыманых даставілі ва УУС Фрунзенскага раёну, дзе пратрымалі амаль тры гадзіны. Паводле словаў аднаго з затрыманых, карэспандэнта газеты "Новы час" Вячаслава Пяшко, ва ўпраўленні міліцыі іх апыталі, але пратаколаў аб адміністрацыйным парушэнні не складалі.

**15 верасня** журналіст Віталь Сямашка атрымаў афіцыйны ліст з УУС Лідскага райвыканкама (Гродненская вобласць). У лісце паведамлялася, што супраць яго была ўзбуджаная справа аб адміністрацыйным правапарушэнні паводле арт. 22.9 КоАП за парушэнне заканадаўства аб СМІ (працу без акрэдытацыі на замежнае выданне). Далей В. Сямашку праінфармавалі, што справа ўжо спыненая ў звязку са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці. Па словах журналіста, ён даведаўся пра ўзбуджэнне справы толькі пастфактум, з гэтага ліста.

**16 верасня** ў Мінску каля будынка суда Цэнтральнага раёна людзі ў цывільным затрымалі журналістаў-фрылансераў Наталлю Валакіду, Аляксандра Баразенку і карэспандэнта БелаПАН Сяргея Сацюка. На той момант журналісты бралі інтэрвью у грамадскага актывіста з Гомеля Юрыя Рубцова перад пачаткам разгляду яго адміністрацыйнай справы аб абразе суддзі. Журналістаў даставілі ў Ленінскае РУУС Мінска, дзе пратрымалі каля трох гадзін.

**25 верасня** суд Бабруйскага раёну і г. Бабруйска прызнаў журналістку Марыну Малчанаву вінаватай у "незаконным вырабе і распаўсюджванні прадукцыі СМІ” (арт. 22.9 ч. 2 КоАП РБ), а менавіта ў тым, што на сайце тэлекампаніі "Белсат" з’явіўся тэкставы матэр’ял за ейным подпісам. Суддзя Н. Чарапуха прызначыла М. Малчанавай штраф за журналісцкую дзейнасць на карысць замежнага СМІ ў памеры 32 базавых велічыні (4 млн. 800 тыс. рублёў). **28 кастрычніка** суддзя Магілёўскага абласнога суда Павел Климаў разгледзеў каацыйную скаргу М. Малчанавай і пакінуў у сіле патанову аб вынясенні штрафа журналістцы.

**7 кастрычніка** Гродненскі раённы суд аштрафаваў журналіста-фрылансера Андрэя Мялешку на 35 базавых велічыняў. Суддзя Ганна Лявусік прызнала журналіста вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ (арт. 22.9. ч. 2 КоАП) і пастанавіла спагнаць з яго 250 тыс. рублей штрафу. У якацт сведкі ў суд выклікалі загадчыка кафедрай батанікі Гродненскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы Алега Созінава, які падцвердзіў, што Мялешка браў у яго інтэрв’ю аб стварэнні эказаказніка на Гродзеншчыне. Матэр'ял з каментаром навукоўцы з'явіўся на сайце "Беларускага Радыё Рацыя" у жніўні без указання імя аўтара. На падставе гэтай публікацыі і была заведзеная адміністрацыйная справа ў дачыненні да А. Мялешкі. **30 кастрычніка** Гродненскі абласны суд пакінуў у сіле пастанову Гродненскага раённага суда ў адносінах да Андрэя Мялешкі (касацыйную скаргу разглядала суддзя Святлана Даўгашэй).

*Гэта быў ужо другі за тры меяцы штраф журналісту па ч. 2 арт. 22.9 КоАП.* ***16 чэрвеня*** *Мялешка быў аштрафаваны на 30 базавых велічыняў.*

**8 кастрычніка** Ленінскі раённы суд Магілёва аштрафаваў журналіста Аляксандра Буракова на 6 млн. рублёў за супрацоўніцтва з замежным СМІ. Суддзя Алена Волкава прызнала яго вінаватым у парушэнні ч. 2 ст. 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). "Прадукцыяй", якую нібыта "вырабіў і распаўсюдзіў" журналіст, суд палічыў размешчаны на сайце DW.de 25 жніўня 2014 г. артыкул "Сцежкай кантрабандыста: ці працуюць расійскія санкці ў памежжы?" за подпісам Аляксандра Буракова, а таксама некаторыя іншыя публікацыі. Артыкулы на сайце рускай службы радыё "Нямецкая хваля" сталі падставаю для вобшуку ў кватэры журналіста, а таксама ў кватэры яго бацькоў **16 верасня**.

**20 лістапада** Магілёўскі абласны суд (суддзя Мельнікаў) пакінуў без зменаў рашэнне суда першай інстанцыі аб вынясенні штрафа журналісту Аляксандру Буракову.

**20 катрычніка** ў Мінску былі затрыманыя журналісты Аляксандр Любянчук і Марыя Арцыбашава, якія на вуліцы бралі інтэрв'ю ў палітыка Ўладзіміра Някляева. У міліцыянераў, што праходзілі побач, выклікала падазрэнні беларуская мова героя сюжэта. Журналістаў і палітыка даставілі ў Савецкае РУУС сталіцы. Там па міліцэйскай кампутарнай базе спраўдзілі асобы затрыманых. Міліцянеры такама мелі намер праглядзець адзняты відэаматэр'ял. Прыкладна праз гадзіну пасля затрымання журналістаў і палітыка вызвалілі без складання пратаколаў.

**29 катрычніка** незалежную журналістку з Брэста Аліну Літвінчук выклікалі павесткаю ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе, але ў міліцыі заявілі, што ў адносінах да яе вядзецца адміністрацыйны працэс па арт. 22.9 КоАП. Да пратакола дадаваўся зварот за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці А. Крупенькіна ад 1 катрычніка 2014 г., які рабіў выснову пра "незаконную журналісцкую дзейнасць ад імя замежнага СМІ Літвінчук А.С.". Нагодай стала публікацыя "Аднагодкі школьнікаў раскажуць пра шкоднасць спайса", размешчаная ў верасні на сайце "Беларускага Радыё Рацыя". Журналістка адмовілася сведчыць супраць самой сябе. Пасля гэтага супрацоўнік міліцыі склаў адпаведны пратакол (у якім засталіся пустымі радкі з дадзенымі пацярпелага і сведкаў) і ўручыў ёй позву ў суд на 6 лістапада.

Вечарам **31 кастрычніка** гісторыя атрымала працяг: супрацоўнікі міліцыі, ужываючы пагрозы, намагаліся патрапіць у кватэру журналісткі, каб перапісаць пратакол, які суд аддаў на дапрацоўку. А. Літвінчук зноў адмовілася даваць паказанні і падпісваць новы пратакол. Па хадайніцтве журналісткі разгляд справы аб адміністрацыйным правапарушэнні быў перанееный на больш позні тэрмін.

**8 лістапада** вечарам каля Заслаўя міліцыянеры затрымалі ўдзельнікаў здымак кліпа гродненскай музычнай групы "Dzieciuki", а разам з імі журналістаў: сябра ГА "БАЖ" з Гродна Аляксандра Дзянісава і супрацоўніка газеты "Новы час", гісторыка Ігара Мельнікава. Без тлумачэнняў іх пагрузілі ў аўтазак і адвезлі ў Заслаўскае РУУС.

Міліцыянеры палічылі здымкі несанкцыянаваным мерапрыемствам. Затрыманых адпусцілі паз тры гадзіны. Адзняты для кліпа матэр'ял міліцыя забрала 10 дзён "для высвятлення зместу".

**10 лістапада** ў Бабруйску падчас выканання прафесійных абавязкаў былі затрыманыя тэлежурналісты Вячаслаў Пяшко і Артур Бондараў. Яны бяседавалі з прафсаюзным актывістам Міхаілам Кавальковым каля прахадной заводу трактарных дэталяў і агрэгатаў, калі падыйшлі міліцыянеры, заявілі аб незаконнасці запісу і адабралі ува ўсіх прысутных дакументы. Пасля пасадзілі прафсаюзнага актывіста ў міліцэйскі аўтамабіль, а журналістам наказалі на ўласным аўтамабілі рухацца за імі ў РУУС. У аддзяленні былі складзеныя пратаколы апытання В. Пяшко і А. Бондарава

адносна запісу інтэрв'ю каля прахадной. Прыкладна праз тры гадзіны пасля затрымання журналістаў вызвалілі, настойліва параіўшы не пісаць у СМІ пра галадоўку і пратэст працоўных на заводзе.

**25 лістапада** суд Ленінскага раёну Гродна (суддзя Алена Пятрова) прызнаў сябраў ГА "БАЖ" журналіста «Радыё "Свабода" Міхаіла Карневіча и Уладзіміра Хільмановіча вінаватымі ў парушэнні парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КоАП). В. Хільмановіча аштрафавалі на 35 базавых велічыняў, М. Карневіча -- на 15 базавых велічыняў. «Правапарушэнне», што ім інкрымінавалася, адбылося **26 кастрычніка** ў г. Свіслач Гродненскай вобласці падчас цэрэмоніі ўшанавання памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага 1863 году. Падставай для абвінавачвання В. Хільмановіча стала ягонае фатаграфаванне на тле бел-чырвона-белага сцяга, а М. Карневіча -- тое, што ён знаходзіўся побач з помнікам Каліноўскаму і "перасоўваўся ў складзе арганізаванай групы".

**16 снежня** Гродненскі абласны суд (суддзя Мікалай Рачынскі) адхіліў касацыйную скаргу В. Хільмановіча на пастанову Ленінскага райсуду.

**18 снежня** суддзя М. Рачынскі не задаволіў таксама касацыйную скаргу журналіста Міхаіла Карневіча, пакінуўшы ў сіле пастанову суду першай інстанцыі.

**28 лістапада** суд Чыгуначнага раёну г. Віцебска пакараў штрафамі трох удзельнікаў журналісцкай фотасесіі «птушкі і клеткі», праведзенай у межах міжнароднай кампаніі "Станем за журналістыку". У прыватнасці, удзельнікаў фотасесіі абвінавацілі ў тым, што яны фатаграфаваліся ў грамадскім месцы на тле гарадскога графіці – выявы трох клетак, з якіх вылятаюць зробленыя з газеты птушкі, -- не запытаўшы на тое дазволу ў раённай адміністрацыі. Суд прызнаў удзельнікаў фотасесіі вінаватымі ў парушэнні парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КоАП). Дзмітры Казакевіч (суддзя Алена Цыганкова) і Алена Сцяпанава (суддзя Дзяніс Губанаў) атрымалі штрафы па 20 базавых велічыняў, а Алена Шабуня (суддзя Дзяніс Губанаў) – 18. **1 снежня** па гэтай жа справе суддзя Алена Цыганкова аштрафавала Канстанціна Мардвінцава на 20 базавых велічыняў, Таццяну Севярынец -- на 25. Падчас слуханняў высветлілася, што пратакол складзены таксама і на жыхара Віцебска Пятра Берлінава – выпадковага мінака, які далучыўся да журналісцкай фотасесіі.

**3 снежня** суддзя Алена Цыганкова пакарала яго трыма суткамі арышту. **17 снежня** ў Чыгуначным райсудзе Віцебска была разгледжаная сёмая справа аб адміністрацыйным правапарушэнні за фотасесію з «птушкамі і клеткамі". Таксама як і ў папярэдніх выпадках суддзя Алена Цыганкова прызнала сябру ГА "БАЖ" Паўла Левінава вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КоАП) і аштрафавала яго на 25 базавых велічыняў. **24 снежня** ў Віцебскім абласным судзе былі разгледжаныя касацыйныя скаргі мясцовых журналістаў – удзельнікаў фотасесіі з «птушкамі і клеткамі», кваліфікаванай супрацоўнікамі міліцыі як несанкцыяванае пікетаванне (арт. 23.34 КоАП). У выніку усім удзельнікам фотасесіі было адмоўлена ў задавальненні скаргаў.

**2 снежня** суд Ленінскага раёну Гродна (суддзя Юры Казакевіч) аштрафаваў журналіста Андрэя Мялешку на 40 базавых велічыняў за журналісцкую дзейнасць без акрэдытацыі на карысць замежнага СМІ -- "Беларускага Радыё Рацыя". Журналіста абвінавацілі ў парушэнні арт. 22.9 ч.2 КоАП. У судзе выступілі прафесар Валер Чарапіца, які распавёў аб сутнасці свайго інтэрв'ю журналісту, а таксама загадчыца кафедры журналістыкі Гродненскага ўніверсітэта імя Я. Купалы Тамара Піваварчык.

*А. Мялешку ў 2014 г. ужо двойчы штрафовали па арт. 22.9. ч.2 КоАП: першы раз -- у чэрвені на 30 базавых велічыняў, другі – у кастрычніку на 35 базавых велічыняў.*

**6 снежня** ў Мінску падчас выканання прафесійных абавязкаў быў затрыманы фаторгаф-фрылансер, сябра ГА "БАЖ" Уладзімір Грыдзін. Яго затрымалі разам з грамадскімі актывістамі, калі тыя каля Камароўскага рынку раздавалі мінакам стужкі з беларускім арнаментам. У. Грыдзін фатаграфаваў працэс. Затрыманых даставілі ў Савецкае РУУС Мінска, дзе з іх узялі тлумачэнні і адпусцілі без складання пратаколаў.

**11 снежня** суд Слонімскага раёну (суддзя Андрэй Ліхач) прызнаў журналмста Алеся Залеўскага вінаватым у «незаконным вырабе і распраўсюджванні прадукцыі СМІ" (арт.22.9 ч.2 КоАП) і аштрафаваў на 40 бааовых велічыняў. Алесь Залеўскі з'яўляецца штатным журналістам польскага тэлеканалу "Белсат". У Слоніме ён здымаў рэпартаж аб злоўжываннях і карупцыі ў галіне жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Сведкам у судзе выступаў суразмоўца А. Залеўскага, кіраўнік Слонімскай ЖКГ Мікалай Сыантовіч. Ён падцвердзіў, што А. Залеўскі з ім размаўляў, але не казаў, для якога тэлеканалу здымае сюжэт..

*Гэта была ўжо другая цягам году адміністрацыйная справа ў адносінах да А. Залеўскага. У маі ён быў аштрафаваны на 30 базавых велічыняў паводле гэтага ж артыкулу КоАП.*

**17 снежня** Бярозаўскі раённы суд (суддзя Наталля Вакульчык) аштрафаваў незалежную журналістку Тамару Шчапёткіну на 30 базавых велічыняў за "незаконны выраб прадукцыі СМІ". Суддзя прыняла да ведама таксама тое, што Шчапёткінай ўжо выносілі раней папярэджанне за працу на замежны СМІ без акрэдытацыі. Матэр'ялы, за якія журналістку прыцягнулі да адказнасці, былі апублікаваныя на сайце "Беларускага Радыё Рацыя". Гэта былі размовы з загадчыкам аптэкі і дырэктарам школы, да якіх пазней прыйшлі міліцыянеры і пацікавіліся, хто браў у іх інтэрв'ю. На падставе адказаў і быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адносінах да Шчапёткінай.

**24 снежня** суд Ленінскага раёну Брэста аштрафаваў на 40 базавых велічыняў (6 млн. рублёў) журналіста Аляксандра Леўчука за незаконны выраб і распаўсюджванне прадукцыі СМІ (арт. 22.9 ч. 2 КоАП) – супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. Як паведаміў журналіст, у матэр’ялах ягонай справы са спасылкаю на інфармацыю КДБ указвалася, што ўстаноўлены факт яго працы на тэлеканал "Белсат".

## 3. Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі

**4 лютага,** падчас затрымання блогера Алега Жалнова ў Бабруйскім міжраённым аддзеле Следчага камітэту, у яго былі вынятыя ўсе, што меліся пры сабе, носьбіты інфармацыі: тры флэш-карткі, тры тэлефоны без сім-картак, 3G мадэм.

**23 мая** ў Бабруйску ў кватэры блогера Алега Жалнова, у адносінах да якога была ўзбуджная крымінальная справа (*гл. у раздзеле «Крымінальныя справы»*), адбыўсяператрус, які доўжыўся больш за тры гадзіны. У выніку у Алега Жалнова забралі практычна ўсе электронныя носьбіты інфармацыі: нэтбук, мабільны тэлефон, видеарэгістратар, чатыры жорсткія дыскі, розныя карткі памяці – усяго 12 найменняў.

**16 верасня** ў Магілёве ў кватэры журналіста Аляксандра Буракова быў праведзены "агляд месца адміністрацыйнага правапарушэння". Падставай для яго стала з'яўленне ў ліпені-жніўні 2014 на сайце DW.DE ("Нямецкая хваля") трох матэрыялаў за подпісам Аляксандра Буракова. У вынікуператрусу з кватэры журналіста забралі два ноўтбукі і дзве флэш-карткі. Пазней у той жа дзень на той жа падставе быў праведзеныператрус у кватэры бацькоў журналіста, падчас якога былі канфіскаваныя сістэмныя

блокі двух кампутараў. Пры гэтым праваахоўнікі не пакінулі ніякіх дакументаў аб выняцці тэхнікі.

**19 верасня** ў Гродна была затрыманая грамадзянская актывістка Вольга Крапоціна -- яна раскладвала на машыны з расійскімі нумарамі ўлёткі з заклікам вярнуць Крым Украіне. Па месцы яе жыхарства быў праведзены агляд, падчас якога міліцыянты вынялі ноўтбук і дзве флэш-карткі (пазней тэхніку вярнулі).

## 4. Пагрозы на адрас журналістаў

**6 лютага** журналістка інфармацыйнага партала TUT.BY Кацярына Сінюк атрымала sms-паведамленне з пагрозамі. Гэта здарылася ў дзень апублікавання на партале яе артыкула "Навошта "сур'ёзныя дзядзькі" заваблівалі непаўналетніх хлопчыкаў у катэдж у пасёлку Зацань?". "Вялікае табе прывітанне ад «хлопчыкаў Давыдовіча». Хутка пагутарым нефармальна і ў нечаканым месцы. Спіцца спакойна?", -- таким быў тэкст паведамлення, дасланага на асабісты тэлефон журналісткі з сайта мабільнага аператара. Таксама з моманту выхаду матэрыялу амаль праз кожныя пяць хвілін ёй тэлефанавалі з невядомых і схаваных нумароў. У артыкуле К. Сінюк распавядалася пра былога кіраўніка міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "У дапамогу дзецям-сіротам" Вячаслава Давыдовіча. Як паказала журналісцкае расследаванне, ён быў звязаны з фігурантамі гучнай крымінальнай справы "аб педафілах".

**14 сакавіка** журналістка “Бабруйскага кур'ера" Марына Малчанава атрымала па электроннай пошце ад невядомай асобы ліст, падпісаны «Іван Іваноў», тэкст якога можна расцэньваць як пагрозу: "Ж...ноў дапісаўся і супакоіўся, і нехта таксама стане больш надаваць часу нармальным чалавечым каштоўнасцям".

Відавочна, меўся на ўвазе вядомы бабруйскі блогер Алег Жалноў, які шмат пісаў пра парушэнні з боку работнікаў міліцыі. У лютым 2014 бабруйская пракуратура пачала супраць яго крымінальную справу -- нібыта за абразу супрацоўніка міліцыі ў блогу.

*Раней, у лютым, ад імя Марыны Малчанавай хтосьці рассылаў ў Інтэрнэце абразлівыя лісты. Два такіх "паслання" атрымалі бабруйскія незалежныя кандыдаты ў дэпутаты -- Алена і Анастасія Мядзведзевы.*

## 5. Папярэджанні, адміністрацыйны ціск

**19 лютага** пракуратура Лідскага раёну (Гродзенская вобласць) вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ незалежнаму журналісту з г. Бярозаўка Юрыю Дзяшуку. У папярэджанні вядзецца аб забароне працаваць без акрэдытацыі на карысць замежных СМІ, а таксама аб недапушчальнасці публікацыі неправеранай інфармацыі. Пісьмовую копію папярэджання журналісту ў пракуратуры перадаць адмовіліся.

Раней, **10 лютага**, у пракуратуры Ю. Дзяшука апыталі адносна ягонай журналісцкай дзейнасці. Тады, скарыстаўшыся законным правам не сведчыць супраць сябе, журналіст адмовіўся адказваць на некаторыя пытанні, пры гэтым растлумачыў, што супрацоўнічае са СМІ як фрылансер, і з яго матэрыяламі можна азнаёміцца на многіх беларускіх сайтах, а таксама ў газетах і часопісах.

**5 сакавіка** пракуратурай Гомельскай вобласці былі вынесеныя афіцыйныя папярэджанні гомельскім журналістам-фрылансерам Юліі Сівец і Мікалаю Бянько. Іх абвінавацілі ў падрыхтоўцы інфармацыйных матэрыялаў без акрэдытацыі для замежнага СМІ -- "Радыё Рацыя", зарэгістраванага на тэрыторыі Польшчы. У якасці доказаў пракуратура прыняла размешчаныя на сайце www.racyja.com рэпартажы, падпісаныя Мікалаем Бянько і Юліяй Сівец. Журналісты адмовіліся адказваць на пытанні пракурора, да якога іх выклікалі перад вынясеннем папярэджанняў. Пазней аказалася, што дакументы ўжо былі загадзя падрыхтаваныя.

**26 жніўня** суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля адхіліў скаргу Мікалая Бянько на дзеянні першага намесніка пракурора Гомельскай вобласці Вадзіма Сушчынскага, які вынес журналісту папярэджанне за падрыхтоўку інфармацыйных матэрыялаў для замежнага СМІ без акрэдытацыі.

**25 сакавіка** ў Гродна актывіста і журналіста Аляксандра Кіркевіча выклікалі ў міліцыю для прафілактычнай гутаркі, пасля гэтага ў яго кватэры быў праведзены агляд. Па словах міліцыянтаў, яны шукалі налепкі з выявай Пуціна, якія нібыта з'явіліся ў раёне, дзе жыве А. Кіркевіч, але нічога не знайшлі. У Аляксандра Кіркевіча ўзялі адбіткі пальцаў, пробы сліны і ўручылі афіцыйнае папярэджанне. Ён лічыў, што падстаў для гэтага не было, паколькі ніякіх правапарушэнняў не здзяйсняў.

*Аляксандр Кіркевіч -- былы палітвязень. Быў арыштаваны за ўдзел у вулічных пратэстах пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 г., асуджаны на 4 гады, але памілаваны і вызвалены ў верасні 2011-га.*

**25 сакавіка** ў Смаргоні супрацоўнікі міліцыі апыталі рэдактара малатыражнага бюлетэня "Смаргонскі Грак" Аляксандра Дзергачова і распаўсюдніка выданьня Ўладзіміра Шульжыцкага датычна працы выдання і рассылкі рэдакцыяй абавязковых асобнікаў у дзяржаўныя органы і архівы. Пратаколаў міліцыянты не складалі, але настойліва раілі “выконваць заканадаўства”. Між тым, патрабаванне рассылання выданняў, падобных "Смаргонскаму Граку", неправамерна, паколькі, у адпаведнасці з заканадаўствам, гэты абавязак не распаўсюджваецца на газеты тыражом не больш 299 асобнікаў, не рэгіструючыя рэдакцыю ў якасці юрыдычнай асобы.

**31 сакавіка** пракуратура Брэста вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў незалежнаму журналісту Яўгену Скрабцу. Папярэджанне тычыцца публікацый журналіста на сайце "Беларускага Радыё Рацыя", офіс якога знаходзіцца ў Беластоку (Польшча). Сам дакумент у пракуратуры журналісту выдаць адмовіліся. Я. Скрабец з гэтай нагоды напісаў у пракуратуру заяву з просьбай выдаць яму копію дакумента для далейшага абскарджвання.

*Раней, **21 сакавіка**, Яўгена Скрабца выклікалі ў гарадскую пракуратуру для апытання. Тады памочніка пракурора Алену Паўлаву цікавіла, ці ён працуе на замежныя СМІ без акрэдытацыі і ці дыскрэдытуе Рэспубліку Беларусь у сваіх матэрыялах.*

**4 красавіка** ў Брэсце незалежнага журналіста Максіма Хлябца выклікалі позвай у Савецкі РАУС у якасці сведкі па адміністрацыйнай справе. Але гутарка падчас допыту тычылася ў большасці прафесійнай дзейнасці карэспандэнта. «Максім Мельнік і яшчэ адзін супрацоўнік міліцыі, які не прадставіўся, заявілі, што ўсё ведаюць пра маю журналісцкую дзейнасць і лічаць яе незаконнай. Міліцыянты прадэманстравалі фотаздымкі, якія пацвярджаюць, па іх меркаванні, маё супрацоўніцтва з "Беларускім Радыё Рацыя"», -- распавёў пасля журналіст. Па словах Хлябца, міліцыянты ў завяршэнне гутаркі сталі схіляць яго да супрацоўніцтва і пагражаць адказнасцю.

**15 красавіка** пракуратура Віцебскай вобласці вынесла афіцыйнае папярэджанне аб магчымай адказнасці за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ (арт. 22.9. ч. 2

КаАП) журналістцы з Віцебска Святлане Сцяпанавай. У пракуратуры палічылі, што яна без акрэдытацыі супрацоўнічае з замежным СМІ -- беларускай службай "Польскага радыё для замежжа". Дакумент быў падпісаны намеснікам пракурора Віцебскай вобласці Георгіем Каранько.

**26 красавіка** незалежнага журналіста Яўгена Скрабца выклікалі ў міліцыю "для апытання". Спачатку міліцыянты казалі, што ён нібыта падобны да ўдзельніка бойкі, якая здарылася ў горадзе ў лютым, а пазней перайшлі да пытанняў аб яго супрацоўніцтве з "Радыё Рацыя" і наведванні Майдана ва Ўкраіне.

**12 мая** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне незалежнай газеце "СНплюс. Свабодныя навіны плюс" за подпісам міністра Алега Праляскоўскага. Газету абвінавацілі ў распаўсюдзе недакладнай інфармацыі, якая прычыняе шкоду грамадскім інтарэсам, а таксама фармуе негатыўнае стаўленне да чэмпіянату свету па хакеі. Нагодай для санкцыі стаў артыкул "ЧС--2014: другімі складамі" у №17 "СНплюс. Свабодныя навіны плюс" ад 06.05.14 г. У ёй паведамлялася пра тое, што Расія не заявіла для ўдзелу ў чэмпіянаце нікога з хакеістаў, якія прымалі ўдзел у алімпіядзе ў Сочы. Па словах галоўнага рэдактара "СН" Васіля Зданюка, на момант здачы нумара ў друк, 5 мая, інфармацыя цалкам адпавядала рэчаіснасці. Але 6 мая расійская зборная раптам змяніла заяўку на чэмпіянат і ўключыла ў склад двух хакеістаў, якія ўдзельнічалі ў алімпійскім турніры ў Сочы.

**9 чэрвеня** незалежную журналістку Марыну Малчанаву выклікалі позвай "для правядзення гутаркі" ў аддзяленне міліцыі Бабруйскага гарвыканкама. Маёр Сяргей Рудзько спачатку цікавіўся прафесійнай дзейнасцю журналісткі, а затым паказаў фотаздымкі з апазіцыйнай акцыі, якая праходзіла ў горадзе, і папрасіў апазнаць прысутных. Міліцыянера таксама цікавіў аўтар фатаграфіі. Па словах М. Малчанавай, яна адказала, што не прысутнічала на гэтай акцыі і таму нічым не можа дапамагчы міліцыі. Менавіта Сяргей Рудзько вясной завёў на Малчанаву адміністрацыйную справу па арт. 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве) за асвятленне антываеннай акцыі бабруйскіх актывістаў. Пазней справа была закрытая.

**11 чэрвеня** незалежны журналіст Максім Хлябец наведаў пракуратуру Брэсцкай вобласці, куды яго выклікалі напярэдадні афіцыйнай позвай "ў сувязі з узніклай неабходнасцю". Старэйшы пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Ніна Бахарава ўручыла журналісту пісьмовае папярэджанне за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. З дакумента вынікае, што доказам супрацоўніцтва М. Хлябца з "Беларускім Радыё Рацыя" пракуратура лічыць два артыкулы, размешчаныя на сайце www.racyja.com у сакавіку 2013 г. Папярэджаньне было датаванае **10-м чэрвеня** і падпісана намеснікам пракурора Брэсцкай вобласці Аляксандрам Тачко.

**15 снежня** пракуратура г. Мінска вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ тэлежурналісту Алесю Залеўскаму. Папярэджанне было падпісана намеснікам пракурора г. Мінска Казімірам Кежуном. Падставай для пракурорскай санкцыі стаў факт асвятлення журналістам разгляду справы аб высылцы з Беларусі вядомай праваабаронцы Алены Танкачова. Паводле інфармацыі, сабранай пракуратурай, у гэты дзень А. Залеўскі рабіў відэасюжэт для тэлеканала "Белсат", чым «парушыў беларускае заканадаўства».

## 6. Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытута акрэдытацыі)

**8 студзеня** ў г. Клімавічы выдаўцу грамадска-палітычнага бюлетэня "Клімавіцкая Інфа-Панарама" Сяргею Аржанцаву адмовілі ў праве прысутнічаць на паседжанні камісіі Клімавіцкага райвыканкама, дзе павінны былі разглядацца некалькі справаў аб адміністрацыйных правапарушэннях. Забарона без тлумачэння прычын зыходзіла ад старшыні адміністрацыйнай камісіі Наталлі Асмалоўскай. Між тым, згодна з арт. 2.14 ПВКаАП, "справы аб адміністрацыйных правапарушэннях разглядаюцца адкрыта". У сувязі з гэтым С. Аржанцаў пакінуў адпаведны запіс у Кнізе заўваг і прапановаў Клімавіцкага райвыканкама. У адказ старшыня Клімавіцкага райвыканкама А. Ломанаў апраўдаў дзеянні сваёй падначаленай, паведаміўшы Сяргею Аржанцаву, што яго прысутнасць палічылі "беспадстаўнай", паколькі ён не з'яўляўся ўдзельнікам адміністрацыйнага працэсу. Тады С. Аржанцаў паскардзіўся ў вышэйшую інстанцыю. **18 лютага** Сяргей Аржанцаў атрымаў адказ з Магілёўскага аблвыканкама на сваю скаргу на дзеянні старшыні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама. Намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама А. Сталяроў напісаў, што справа аб адміністрацыйным правапарушэнні разглядаецца адкрыта, але забарона райвыканкамаўскай чыноўніцы мела законныя падставы.

**29 студзеня** вечарам у Мінску падчас здымак фільма "Авель" на плошчы Незалежнасці журналістам перашкаджалі працаваць невядомыя асобы ў цывільным. Каля дзесяці такіх асобаў станавіліся перад супрацоўнікамі СМІ і грудзьмі зачынялі ад іх камер здымачную пляцоўку. У гэты час здымаліся сцэны аб масавых пратэстах у Мінску ў снежні 2010 г.

**1 лютага** пасля здымак фільма "Авель" людзі ў цывільным затрымалі відэааператара інфармагенцтва БелаПАН Васіля Сямашку. Інцыдэнт адбыўся пасля таго, як ён узяў інтэрв'ю ў удзельнікаў масоўкі -- двух студэнтаў. Па словах аператара, прыкладна ў 22.45 да яго падышлі трое невядомых у цывільным і сталі цікавіцца пытаннямі, якія журналіст задаваў ўдзельнікам масоўкі. Яны спрабавалі затрымаць гэтых студэнтаў. "Ціхары" запатрабавалі ў журналіста выдаліць запіс, не аднаўляць яго і не публікаваць.

**12 лютага** кіраўнік КУП "ЖРЭУ г. Брэста" Павел Заграй адмовіўся гутарыць з пазаштатным карэспандэнтам інфармагенцтва БелаПАН Алесем Ляўчуком. Падставай звароту журналіста да чыноўніка стаў зварот групы грамадзян у пракуратуру Брэста з просьбай завесці ў дачыненні да службовых асобаў ЖРЭУ г. Брэста крымінальную справу ў сувязі з невыкананнем абавязкаў па тэхнічным абслугоўванні і рамонту жылога дома, што зрабіла яго непрыдатным для пражывання. Рыхтуючы матэрыял на гэтую тэму, Ляўчук пацікавіўся пазіцыяй другога боку -- кіраўніцтва ЖРЭУ. Але Павел Заграй паведаміў праз сакратара, што не будзе нічога каментаваць, а галоўны інжынер прадпрыемства Васіль Сумар проста сышоў ад журналіста. Аляксандр Ляўчук пакінуў скаргу на дзеянні кіраўніцтва ЖРЭУ ў Кнізе скаргаў і прапановаў.

**18 лютага** ў Барысаве журналістам не дазволілі прысутнічаць на сустрэчы прадстаўнікоў Міністэрства абароны з ваеннымі пенсіянерамі Барысаўскага гарнізона, якія напярэдадні паскардзіліся ў прэзідэнцкую адміністрацыю і Мінабароны на нізкія пенсіі. Рэдактара мясцовай недзяржаўнай газеты "Барысаўскія навіны" Анатоля Букаса, фрылансера Аляксандра Зянкова і здымачную групу мясцовага тэлеканала не прапусцілі на тэрыторыю вайсковай часткі, дзе праходзіла сустрэча. Начальнік штаба падпалкоўнік Герасімаў спаслаўся на адсутнасць у іх адмысловай акрэдытацыі

Мінабароны. У той жа час юрысты не знайшлі ў адкрытым доступе дакументаў, якія рэгламентавалі б атрыманне такой акрэдытацыі.

Анатоль Букас звярнуўся да ваеннага пракурора Міхаіла Бычка з просьбай вырашыць праблему. Рэдактар звярнуў увагу, што такім чынам парушаюцца правы журналістаў, гарантаваныя "Законам аб СМІ". У адказ пракурор параіў пісаць афіцыйную скаргу.

**18 лютага** стала вядома, што для рэгіянальнай газеты "Бабруйскі кур'ер" апынулася "засакрэчанай" інфармацыя аб колькасці казіно ў Бабруйску. Рыхтуючы публікацыю пра бабруйчанку, якая прайграла ў казіно каля 200 тысяч долараў, журналіст газеты звярнуўся ў гарвыканкам з пытаннем пра колькасць гульнявых установаў у горадзе. Журналіста перанакіроўвалі з аддзела ў аддзел выканкама, а потым і ў падатковую інспекцыю. Але ў выніку неабходную інфармацыю журналісту бабруйскія чыноўнікі так і не далі.

**3 сакавіка** ў Мінску падчас адкрытага судовага працэсу над затрыманым каля расійскай амбасады актывістам Сяргеем Фінкевічам суддзя Цэнтральнага суду Менска Аляксандр Якунчыхін забараніў журналістам весці аўдыёзапіс паседжання.

Убачыўшы ў руках карэспандэнтаў дыктафоны, суддзя Якунчыхін заявіў, што аўдыёзапіс ў працэсе можна весці толькі з яго дазволу, і што ў выпадку непадпарадкавання журналістаў могуць прыцягнуць да адказнасці. Між тым, у пастанове Пленума Вярхоўнага Суда "Аб забеспячэнні галоснасці пры ажыццяўленні правасуддзя і распаўсюдзе інфармацыі пра дзейнасць судоў" недвухсэнсоўна сцвярджаецца, што ў адкрытых судовых пасяджэннях немагчыма забараніць журналістам весці аўдыёзапіс працэсу і дазвол суддзі для гэтага не патрабуецца. **22 красавіка** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" атрымала з Вярхоўнага суда адказ на скаргу на дзеянні суддзі Аляксандра Якунчыхіна за подпісам намесніка старшыні Валерыя Калінковіча. У ім паведамлялася, што Вярхоўны Суд адмовіўся пачаць дысцыплінарную вытворчасць у дачыненні да суддзі Якунчыхіна, паколькі падчас адміністрацыйнага працэсу супраць Сяргея Фінкевіча ніякіх скаргаў на дзеянні суддзі Якунчыхіна не паступала.

**6 сакавіка** стала вядома, што тры раённыя выбарчыя камісіі -- Горацкая, Дрыбінская і Мсціслаўская -- не далі інфармацыю недзяржаўнай афіцыйна зарэгістраванай газеце "УзГорак". Выданне прасіла прадаставіць звесткі аб зарэгістраваных кандыдатах у дэпутаты мясцовых саветаў.

**16 сакавіка** падчас здымак перадвыбарчага пікету Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі каля Камароўскага рынку ў Мінску міліцыянты перашкаджалі фатографу Генадзю Верацінскаму: спачатку зачынялі камеру, потым адабралі фотаапарат і сцёрлі ўсе кадры.

**20 сакавіка** ў Брэсце на выбарчым участку №75 карэспандэнтцы недзяржаўнай газеты "Брэсцкі кур'ер" Іне Хоміч не дазволілі працаваць у якасці журналіста. Ад пачатку датэрміновага галасавання яна была акрэдытаваная як назіральнік, але калі ёй забаранілі сфатаграфаваць пратакол для галасавання, Іна Хоміч паказала членам выбарчай камісіі пасведчанне карэспандэнта "Брэсцкага кур’ера" і заявіла, што будзе з гэтага моманту знаходзіцца на ўчастку ў тым ліку і як журналіст. У адказ сакратар камісіі заявіў, што выбарчае заканадаўства нібыта забараняе быць і назіральнікам, і прадстаўніком СМІ. Журналістка накіравала скаргі на такія дзеянні старшыні ўчастковай камісіі у гарадскую выбарчую камісію і пракуратуру Брэста.

**23 сакавіка** ў Барысаве пазаштатнаму фотакарэспандэнту БелаПАН Валянціне Зянковай не дазволілі здымаць на выбарчым участку №59 па Барысаўскім раёне. Журналістка паказала старшыні камісіі пасведчанне БелаПАН, аднак той запатрабаваў

у яе дадатковую "акрэдытацыю" і не дазволіў здымаць, што супярэчыць выбарчаму заканадаўству.

**25 сакавіка** ў Минску падчас санкцыянаванага вулічнага шэсця з нагоды святкавання Дня Волі (традыцыйная штогадовая акцыя дэмакратычнай апазіцыі) супрацоўнікі міліцыі перашкаджалі працы журналістаў. Перад пачаткам акцыі міліцыянты спрабавалі затрымаць карэспандэнта інтэрнэт-газеты "Салідарнасць" Алену Якжык за тое, што яна сфатаграфавала падагнаныя да месца правядзення акцыі «аўтазакі» -- машыны для перавозкі затрыманых. Журналістка прад'явіла пасведчанне і пасля невялікага разбору пазбегла затрымання. Аператару тэлеканала "Белсат" Аляксандру Баразенку людзі ў цывільным не далі падняцца на тэрасу кінатэатра "Кастрычнік", каб зрабіць панарамны здымак акцыі. Па словах А. Баразенкі, яны адмовіліся прад'явіць дакументы, паводзілі сябе вельмі груба і пагражалі затрыманнем.

**28 сакавіка** рэдакцыя баранавіцкай незалежнай газеты "Intex-press" падрыхтавала скаргу ў Цэнтральны выбарчы камітэт з нагоды парушэння правоў журналістаў падчас мясцовых выбараў, у першую чаргу, датычных парушэнняў Выбарчага кодэкса. Так, у першы дзень датэрміновага галасавання на выбарчым участку №47 сябры ўчастковай камісіі запатрабавалі ў журналістаў "дазволу прысутнічаць на ўчастку за подпісам старшыні ЦВК". Канфлікт змаглі ўрэгуляваць, але праца карэспандэнтаў на гэтым участку была сарваная.

На выбарчым участку №27 **23 сакавіка** старшыня камісіі Юрый Хрышчановіч заявіў карэспандэнту "Intex-press", што забаронена рабіць фотаздымкі падчас падліку галасоў. Толькі пасля нейкіх тэлефонных кансультацыяў старшыня прызнаў сваю памылку.

**24 сакавіка** старшыня Баранавіцкай гарадской тэрытарыяльнай камісіі Тамара Шукала адмовілася падаць "Intex-press" вынікі выбараў па кожнай з акругаў у г. Баранавічы. Яна назвала толькі колькасць галасоў за кожнага з кандыдатаў, парэкамендаваўшы глядзець астатнія вынікі ў дзяржаўнай газеце "Наш край".

**11 красавіка** рэдакцыя "Intex-press" атрымала адказ на скаргу ў ЦВК. З ліста за подпісам старшыні камісіі Лідзіі Ярмошынай вынікала, што ЦВК не ўгледзеў парушэнняў правоў журналістаў "Intex-press" падчас выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы. Падобны адказ на скаргу прыйшоў у рэдакцыю **8 красавіка** з Брэсцкай абласной тэрытарыяльнай выбарчай камісіі за подпісам намесніка старшыні камісіі Наталлі Грыгор'евай.

**28 сакавіка** ў Брэсце карэспандэнтам інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алесю Леўчуку і Мілане Харытонавай перашкаджалі асвятляць паседжанне гарадской камісіі па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў. Спачатку старшыня камісіі зачыніў перад журналістамі дзверы ў памяшканне і адмаўляўся іх прапусціць. Пазней карэспандэнты ўсё ж здолелі трапіць на паседжанне, але тады члены камісіі забаранілі ім карыстацца фота-, відэа- і аудыётэхнікай.

**6 мая** супрацоўнікі міліцыі перашкаджалі незалежным журналісткам Вользе Чайчыц і Аляксандры Дынько патрапіць на адкрыты судовы працэс. Інцыдэнт здарыўся ў судзе Фрунзенскага раёну Мінска, дзе судзілі затрыманага 5 мая грамадскага актывіста Мікалая Дземідзенку. Трапіць на судовае паседжанне журналісткі змаглі прыкладна праз паўгадзіны -- пасля ўмяшальніцтва намесніка старшыні суда.

**8 мая** ў Мінску міліцыянты перашкаджалі працаваць здымачнай групе фінскага тэлеканала "Yleisradio". Фінскія журналісты рабілі апытанне мінакоў на вуліцы, калі да іх падыйшоў нарад міліцыі і загадаў здымачнай групе, у тым ліку вядомаму фінскаму спартыўнаму каментатару Каю Кунасу (Kaj Kunnas), спыніць здымку і пакінуць пляцоўку каля Палаца спорту.

**23 мая** журналіст з Гродна Віктар Парфёненка атрымаў з Міністэрства замежных спраў Беларусі ўжо шостую па ліку адмову ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта "Беларускага Радыё Рацыя". У афіцыйным адказе МЗС спасылаецца на закон "Аб СМІ" і "Палажэнне аб парадку акрэдытацыі ў Беларусі журналістаў замежных СМІ".

**27 мая** начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Чылік адмовіла незалежнай рэгіянальнай газеце "Intex-press" у прадастаўленні інфармацыі. Карэспандэнт Арцём Гарбацэвіч звярнуўся да яе з пытаннем, у колькі абыйшлося гарадскому бюджэту трохдзённае свята горада з феерверкам і прыездам у Баранавічы беларускага фіналіста Еўрабачання Тэа. Чыноўніца адмовілася размаўляць з журналістам. У выніку, каб атрымаць адказы на свае пытанні, незалежнае выданьне накіравала ў гарвыканкам пісьмовы запыт.

**3 чэрвеня** ў Мінску падчас урачыстага адкрыцця новай станцыі метро "Малінаўка" міліцыянты пад пагрозай затрымання загадалі журналістцы незалежнай газеты "Наша Ніва" Ірыне Арэхоўскай выдаліць з фотакамеры здымкі. І. Арэхоўская сфатаграфавала, як праваахоўнік выводзіў з метро нецвярозага мужчыну.

**12 чэрвеня** ў Баранавічах журналістаў незалежнай газеты "Intex-press" Вольгу Шыракаступ і Дзмітрыя Макарэвіча не пусцілі ў гарвыканкам на цэрымонію ўшанавання лепшых выпускнікоў горада. Начальніцы аддзела арганізацыйна-кадравай работы Баранавіцкага гарвыканкама Таццяне Чылік «не спадабаўся» знешні выгляд карэспандэнтаў, а таксама заплечнік фатографа, дзе ляжала апаратура. Да іншых фатографаў і відэаапературараў, якія таксама былі з вялікімі сумкамі і заплечнікамі для апаратуры, прэтэнзіяў у чыноўнікаў не ўзнікла.

**26 чэрвеня** стала вядома, што суддзя Глыбоцкага раённага суда Людміла Вашчанка забараніла мясцовым журналістам весці дыктафонны запіс падчас адкрытага судовага працэсу. Па словах Зміцера Лупача, які разам з калегам прысутнічаў на адкрытым судовым паседжанні па крымінальнай справе аб забойстве, у першы дзень слуханняў суддзя забараніла ім карыстацца тэхнічнымі сродкамі. На другі дзень судовага паседжання журналісты сталі карыстацца дыктафонамі. На што судзьдзя забараніла карыстацца і дыктафонамі і прыстрашыла выдаліць карэспандэнтаў з залы суда.

**27 жніўня** супрацоўніца аддзела ідэалогіі Глыбоцкага райвыканкама перашкаджала мясцоваму журналісту Дзмітрыю Лупачу ўдзельнічаць у мерапрыемстве фестывалю хрысціянскіх фільмаў "Magnificat". Нягледзячы на папярэднюю акрэдытацыю ў старшыні фестывалю, чыноўніца не дазволіла Д. Лупачу прайсці ў аўтобус, падрыхтаваны для журналістаў. Яна заявіла, што журналіст "Каталіцкага весніку" нібыта не мае акрэдытацыі і не можа ехаць з усімі іншымі журналістамі. На думку Д. Лупача, не выключана, што паводзіны чыноўніцы -- гэта рэакцыя на яго матэрыял для інфармацыйнага рэсурсу westki.info, дзе на адной з ілюстрацыяў бачнае памылковае напісанне назвы краіны-ўдзельніцы фестывалю -- "Макідонія".

**8 верасня** ў Баранавічах карэспандэнтам рэгіянальнай недзяржаўнай газеты "Intex-press" перашкаджалі фатаграфаваць нецэнзурны надпіс на адрас прэзідэнта Расіі, зроблены напярэдадні невядомымі на плоце мясакамбіната. Падчас здымкі да фотакарэспандэнта Аляксандра Трыпуцькі падбег супрацоўнік мясакамбіната. Ён стаў хапаць рэпарцёра за куртку, закрываў камеру, патрабаваў спыніць фотаздымку і абражаў журналістаў крыкамі: "Самі напісалі -- самі здымаеце!". Міліцыянты, якія знаходзіліся побач, ніяк не рэагавалі на агрэсіўныя паводзіны супрацоўніка прадпрыемства. Затое яны праверылі дакументы журналістаў Наталлі Семяновіч і Аляксандра Трыпуцькі, перапісалі іх асабістыя дадзеныя. Адзін з праваахоўнікаў, сяржант, настойліва рэкамендаваў журналістам выдаліць адзнятыя кадры з памяці фотакамеры.

**10 лістапада** ў Бабруйску падчас выканання прафесійных абавязкаў былі затрыманыя тэлежурналісты Вячаслаў Пяшко і Артур Бондараў. Калі яны гутарылі з прафсаюзным актывістам Міхаілам Кавальковым ля прахадной завода трактарных дэталяў і агрэгатаў, да іх падыйшлі міліцыянты, заявілі аб незаконнасці запісу і адабралі ва ўсіх прысутных дакументы. У аддзяленні міліцыі В. Пяшко і А. Бондарава апыталі адносна запісу інтэрв'ю ля прахадной і настойліва параілі не пісаць у СМІ пра галадоўку і пратэст працоўных на заводзе.

**24 лістапада** журналіста інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Уладзіміра Лапцэвіча не дапусцілі на пазачарговую шостую сесію Магілёўскага абласнога савета дэпутатаў 27-га склікання. Падставай для адмовы галоўны спецыяліст Магілёўскага аблсавету Яўген Нальгачоў назваў тое, што карэспандэнта няма ў спісах запрошаных. Гэта быў не першы такі выпадак. У кастрычніку той жа Е. Нальгачоў выдаліў В. Лапцэвіча з залы паседжанняў Магілёўскага аблсавету, калі праходзіла чарговая сесія Савета дэпутатаў. Уладзімір Лапцэвіч абскардзіў дзеянні Е. Нальгачова. **19 лістапада** на асабістым прыёме старшыня Магілёўскага аблсавету Анатоль Ісачэнка запэўніў журналіста, што ён асабіста нікому не забараняе прысутнічаць на сесіі аблсавета.

**28 лістапада** падчас разгляду судом Чыгуначнага раёну г. Віцебска справаў трох з удзельнікаў журналісцкай фотасесіі "Птушкі і клеткі", праведзенай напярэдадні міжнароднай кампаніі "Станем за журналістыку" (*гл. таксама «Затрыманні, судовы адміністрацыйны пераслед журналістаў і блогераў»*) журналісты, якія мелі намер асвятляць працэс, сутыкнуліся з праблемамі, паколькі суддзя збіралася правесці суд у закрытым рэжыме ў сваім кабінеце. Каб патрапіць на слуханні, журналістам давялося звяртацца да старшыні суда, пасля чаго ў кабінет ўпусьцілі 5 чалавек (па колькасці крэслаў).

## 7. Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

**1 студзеня** рэдакцыю рэгіянальнай недзяржаўнай "Газеты Слонімскай" выселілі з памяшкання, якое яна арэндавала для офіса ў прадпрыемства "Партнёр-Слонім" (ТАА). Як афіцыйную прычыну назвалі забарону пажарнай службы эксплуатаваць другі паверх будынка. Галоўны рэдактар "Газеты Слонімскай" Віктар Валадашчук мае сумнеў у самастойнасьці прынятага арэндадаўцамі рашэння і ўпэўнены, што дзеянні накіраваныя менавіта супраць газеты. Ён паведаміў, што прадстаўнікі мясцовай улады не аднойчы звярталіся да адміністрацыі будынка, каб рэдакцыю выселілі.

**17 студзеня** стала вядома, што ідэолагі Віцебскага аблвыканкама аказваюць ціск на мясцовых сябраў ГА "БАЖ" і журналістаў. Пад увагу ідэолагаў патрапілі ўдзельнікі сяброўскай перадсвяточнай сустрэчы журналістаў, якая прайшла 28 снежня ў Віцебску: прысутныя пілі гарбату, слухалі барда -- сябра ГА "БАЖ" з Бешанковічаў Георгія Станкевіча, размаўлялі пра планы на наступны год. Гэтую сустрэчу ў аблвыканкаме расцанілі як ідэалагічна шкодную: асобных журналістаў, а таксама кіраўнікоў рэдакцый мясцовых газет выклікалі ў аддзел ідэалогіі, каб распытаць пра "непажаданае" сяброўства ў "непажаданай" арганізацыі. Нават тым, хто не з'яўляецца сябрам БАЖ, было сказана, што яны былі "не там, дзе трэба", і сустракаліся "не з тымі калегамі". Жадаючым увайсці у шэрагі БАЖ раілі ўваходзіць у Беларускі саюз журналістаў. А на тых, хто ўжо зрабіў выбар, ідэолагі спрабавалі ціснуць праз кіраўніцтва на працы: тэлефанавалі ў мясцовыя рэдакцыі, інфармавалі аб сяброўстве супрацоўнікаў у "непажаданай арганізацыі" і папярэджвалі аб небяспецы такіх сустрэч.

**10 лютага** праваабаронца і сябра ГА "БАЖ" Леанід Судаленка з Гомеля атрымаў адказ з Міністэрства ўнутраных спраў на просьбу выявіць асобу, якая з беларускага IP-адрасу размяшчае на сайце gomelbest.com паклёпніцкую і абразлівую інфармацыю ў дачыненні да яго і іншых дэмакратычных актывістаў. Начальнік упраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогіяў Ігар Чарненка ў афіцыйным лісце напісаў, што МУС "вышэй згаданай тэхнічнай магчымасцю не валодае". Перад гэтым Л. Судаленка з просьбай выявіць зламысніка не аднойчы звяртаўся ва УУС Гомельскага аблвыканкама. Адтуль справу перанакіроўвалі ў Чыгуначны РАУС Гомеля, але выніку гэта не дало.

**18 лютага** заснавальнік сайта orshatut.by Віктар Андрэеў з Оршы паведаміў, што супрацоўнікі КДБ раяць рэкламадаўцам спыніць супрацоўніцтва з ягонай рэдакцыяй, бо сайт "не зусім той". Адзін з пастаянных рэкламадаўцаў папрасіў зняць рэкламу з сайта, спаслаўшыся на прыватную гутарку са знаёмым супрацоўнікам КДБ, які параіў гэта зрабіць, каб потым не было праблем з прадпрымальніцкай дзейнасцю.

**3 сакавіка** пазаштатная карэспандэнтка "Бобруйского курьера" Марына Малчанава паведаміла, што на працягу апошніх двух тыдняў у сетцы Інтэрнэт ад яе імя хтосьці рассылаў абразлівыя і пагрозлівыя лісты. Іх адрасатамі сталі дзве мясцовых кандыдаткі ў дэпутаты ад грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" -- Алена і Настасся Мядзведзевы. Невядомая асоба для гэтых мэтаў стварыла на mail.ru паштовую скрыню пад імем журналісткі. У адным з такіх лістоў Мядзведзевым пагражалі ад імя журналістаў. Сама Марына Малчанава выказала меркаванне, што пасланні зыходзілі ад "дастаткова вядомых органаў", якія хочуць скампрамэтаваць яе ў вачах мясцовай грамадскасці.

**8 красавіка** Глыбоцкі раённы суд (суддзя Андрэй Тарасевіч) аштрафаваў рэгіянальную незалежную газету «Прэфект-інфо" на 25 базавых велічыняў (3 млн. 750 тыс. рублёў) за шэраг парушэнняў Закона аб рэкламе ў кастрычніцкім нумары газеты. Рэдакцыя не магла знайсці сродкі, каб выплаціць суму. Выданне газеты ўжо тады было фактычна спынена з-за фінансавых цяжкасцяў. "Падобныя парушэнні я часта бачу ў нашай раёнцы і не толькі, -- паведаміў галоўны рэдактар «Прэфект-інфо" Зміцер Лупач. -- Я з сумам павінен адзначыць, што далейшы выхад нашай газеты ўжо немагчымы. Мы існавалі толькі за тыя сродкі, якія мелі ад рэкламы. Улады ж нам ўсяляк перашкаджалі. Кіраўніцтву банкаў было забаронена даваць нам рэкламу, прадпрымальнікам таксама казалі: "Думайце, каму даяце рэкламу, гэта ж апазіцыя, глядзіце, каб у вас не было потым праблем". І шмат хто ад рэкламы ў нас адмаўляўся".

**7 мая** ў Беларусь не ўпусцілі журналіста брытанскага тэлеканала Channel 4 News Джонатана Рагмана. Паводле паведамлення журналіста ў "Твітэры", яго "знялі з цягніка і выправадзілі". Інцыдэнт здарыўся на мяжы, у пункце пропуску Гудагай.

Прэс-сакратар Дзяржаўнага памежнага камітэта Аляксандр Цішчанка тлумачыць гэта тым, што ў Рагмана не было ні дзеючай візы, ні квітка на чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску, ні акрэдытацыі на гэта спартовае мерапрыемства. Джонатан Рагман, у сваю чаргу, сцвярджае, што яго выслалі з Беларусі, нягледзячы на наяўнасць акрэдытацыі на чэмпіянат свету па хакеі. Ён таксама кажа, што беларускія памежнікі высадзілі яго з цягніка Вільнюс-Мінск, паколькі "нешта было не так з пашпартам".

*Журналіст Джонатан Рагман спецыялізуецца на пытаннях знешняй палітыкі, тэрарызму і міжнароднага развіцця. Ён рабіў рэпартажы падчас рэвалюцый і паўстанняў ў Сірыі, Егіпце, Лівіі, Тунісе і Бахрэйне, асвятляў праблемы голаду ў Самалі, крызісу еўразоны, землятрусу на Гаіці і інш.*

**29 ліпеня** брэсцкага журналіста Яўгена Скрабца намагаліся завербаваць супрацоўнікі КДБ. Як распавёў Е. Скрабец, гэта адбылося, калі ён спрабаваў

ўладкавацца на працу ў аўтобусны парк №1 ААТ "Брэстаблаўтатранс" кіраўніком сектара турызму, маркетынгу і знешнеэканамічнай дзейнасці. Калі ён прыйшоў на сустрэчу з дырэктарам прадпрыемства, той сказаў, што яго працаўладкаванне залежыць ад гутаркі з двума людзьмі, якія чакаюць у кабінеце галоўнага інжынера. Двое невядомых далі зразумець, што шмат ведаюць аб жыцці і дзейнасці Я. Скрабца за апошні год. Пасля гэтага яны сказалі, што, заняўшы пасаду на новай працы, журналіст павінны працягваць займацца грамадскай (не радыкальнай) дзейнасцю і падтрымліваць з імі кантакт. Таксама прапаноўвалі падпісаць дакумент аб тым, што ён добраахвотна пагадзіўся стаць сакрэтным супрацоўнікам беларускага КДБ. Мужчыны ў цывільным цікавіліся супрацоўніцтвам Я. Скрабца з "Беларускім Радыё Рацыя". Яны папярэдзілі, што, калі цяпер ён пачне актыўна там працаваць, то каб не здзіўляўся, неўзабаве атрымаўшы штраф у 4 млн. рублёў. Па словах Я. Скрабца, ён катэгарычна адмовіўся ад прапанаванага "супрацоўніцтва".

**31 ліпеня** ў судзе Кастрычніцкага раёну Мінска супрацоўнікі міліцыі перапісвалі асабістыя дадзеныя журналістаў, якія прыйшлі асвятляць судовы працэс па справе абвінавачанага ў хуліганстве праваабаронцы Андрэя Бандарэнка. На пытанне карэспандэнта БелаПАН чалавеку ў цывільным, які запісваў звесткі, навошта гэта трэба, той нічога не адказаў.

**14 жніўня** праграмнаму дырэктару "Беларускага Радыё Рацыя" Юрыю Ляшчынскаму зноў адмовілі ва ўездзе ў Беларусь. Адпаведны штамп быў пастаўлены ў пашпарце журналіста беларускім консульствам у Беластоку без тлумачэння прычын. Ю. Ляшчынскі падаваў дакументы на атрыманне аднаразовай турыстычнай візы. Да гэтага адмову ў беларускай візе Юрый Ляшчынскі атрымаў у жніўні 2013 года, а падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 года яму анулявалі дзейную візу.

## 8. Перашкоды ў друку і распаўсюдзе прадукцыі СМІ

**12 лютага** стала вядома, што Віцебская абласная бібліятэка адмовілася ад падпіскі на 2014 г. на недзяржаўныя газеты: "Наша Ніва", "Народная воля" і "БелГазета". Бібліятэкары патлумачылі наведвальнікам, незадаволеным такой навіной, што такі быў загад абласнога ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі. Дырэктар абласной бібліятэкі Аляксандр Сёмкін, у сваю чаргу, патлумачыў адмову ад падпіскі "скарачэннем бюджэтнага фінансавання". Тым не менш, на 2014 г. абласная бібліятэка выпісала больш найменняў перыядычных выданняў, чым ў 2013-м. Падобная сітуацыя склалася і ў іншых бібліятэках горада: напрыклад, у цэнтральнай гарадской бібліятэцы ім. Горкага таксама не выпісалі на 2014 ані "БелГазету", ані "Народную волю", ані "Нашу Ніву".

**20 сакавіка** ў Смаргоні затрымалі мясцовага актывіста Уладзіміра Шульжыцкага за распаўсюд інфармацыйнага малатыражнага бюлетэня "Смаргонскі Грак". Міліцыянты забралі ў актывіста 31 асобнік бюлетэня і склалі пратакол паводле ч. 2 арт. 22.9 КоАП -- за незаконнае распаўсюджванне прадукцыі СМІ. Увечары таго ж дня міліцыя правяла агляд у кватэры распаўсюдніка, дзе знайшла яшчэ адзін асобнік бюлетэня.

**17 красавіка** Смаргонскі раённы суд аштрафаваў Уладзіміра Шульжыцкага на 3 млн. рублёў. На думку суда, Шульжыцкі павінен быў папярэдне заключыць з юрыдычнай асобай рэдакцыі бюлетэня дамову на распаўсюд, хаця Закон аб СМІ не патрабуе рэгістрацыі друкаваных выданняў, якія выходзяць накладам да 299 асобнікаў,

і стварэння імі юрыдычнай асобы. Адпаведна, юрыдычнай асобы, з якой распаўсюднік мог бы заключыць дамову, папросту не існавала.

**3 красавіка** Бешанковіцкі раённы суд вынес рашэнне па справе выдаўца маланакладнай газеты "Крывінка" Георгія Станкевіча. Яго пакаралі максімальным штрафам у памеры 50 базавых велічыняў (7 млн. 500 тыс. рублёў). Суд прызнаў, што Георгій Станкевіч парушыў правілы распаўсюджвання выдання і патрабаванні да выдавецкай дзейнасці (ч. 2 арт. 22.9 КоАП). Паводле міліцэйскага пратаколу, ён парушыў заканадаўства аб СМІ, раздаючы газету мінакам на рынку ў Бешанковічах. Суддзя Наталля Рэут адмовілася перанесці працэс на іншы дзень, як таго прасіў выдавец -- каб змог прыехаць з Мінска абраны ім адвакат. Таксама суддзя адхіліла хадайніцтва Г. Станкевіча аб прысутнасці ў судзе перакладчыка з рускай на беларускую мову (паколькі судовы працэс вёўся па-руску). Суддзя заявіла, што сваімі патрабаваннямі ён толькі запавольвае працэс. У выніку, суддзя Рэут выгнала Г. Станкевіча з залы суда, абвінаваціўшы ў парушэнні правапарадку -- пасля таго як той некалькі разоў заявіў ёй адвод. **20 мая** Георгій Станкевіч атрымаў па пошце пастанову Віцебскага абласнога суда па выніках разгляду яго касацыйнай скаргі на рашэнне Бешанковіцкага раённага суда. Рашэнне суда першай інстанцыі было пакінута без зменаў.

*Настаўніка Георгія Станкевіча ўжо трэці раз штрафуюць за распаўсюд "Крывінкі". У 2010 г. ён быў аштрафаваны на 20 базавых, ў 2012 г. штраф склаў 40, а цяпер -- 50 базавых велічыняў.*

**20 красавіка** на беларуска-літоўскай мяжы журналістку газеты "Новы Час" Ганну Аземшу не ўпусцілі ў Беларусь з-за наяўнасці ў аўтамабілі інфармацыйных бюлетэняў па назіранні за выбарамі. Па словах журналісткі, у пункце пропуску Каменны Лог падчас дагляду аўтамабіля супрацоўнікі мытнай службы звярнулі ўвагу на інфармацыйныя бюлетэні: "Восем цікавых фактаў аб выбарах" (130 асобнікаў) і "Назіральнік паведамляе" (65 асобнікаў). У выніку мытнікі нічога не канфіскавалі, але загадалі выехаць з тэрыторыі Беларусі і выкінуць альбо камусьці перадаць бюлетэні. Толькі зрабіўшы гэта, А. Аземша змагла ўехаць у краіну.

**2 чэрвеня** стала вядома, што рэдакцыі баранавіцкай незалежнай газеты "Intex-press" зноў адмовілі ў распаўсюдзе праз падпісныя каталогі і газетныя шапікі. Выданне ў маі звярнулася да дзяржаўных арганізацыяў сістэмы распаўсюджвання з просьбай аб супрацоўніцтве ў другім паўгоддзі 2014 г. Ад усіх прыйшлі нічым не матываваныя адмовы. Такім чынам, ужо дзевяты год незалежная рэгіянальная газета "Intex-press" безвынікова спрабуе вярнуцца ў сістэму распаўсюду, адкуль яе разам з іншымі незалежнымі выданнямі выключылі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 г.

**12 жніўня** суд Магілёўскага раёна аштрафаваў на 30 базавых велічыняў рэдактара маланакладнай газеты "Наш Магілёў" Ігара Барысава. Суддзя Станіслаў Леўчанка прызнаў яго вінаватым у парушэнні Закона "Аб СМІ" і незаконным распаўсюдзе друкаванай прадукцыі (арт. 22.9 ч. 2 КоАП). Сам журналіст сцвярджаў у судзе, што ён не распаўсюджваў газету "Наш Магілёў" і бюлетэнь "Сацыял-дэмакрат", а проста перавозіў іх у асабістым аўтамабілі. У судзе Ігар Барысаў заявіў, што лічыць адміністрацыйную справу супраць сябе палітычна матываванай. Ён прызнаў, што перавозіў наклад газет, які перавышае заяўлены ў выходных дадзеных (299 асобнікаў, якія не патрабуюць рэгістрацыі СМІ), але адзначыў, што гэта абмежаванне не адпавядае Канстытуцыі і міжнародным пагадненням.

**29 жніўня** ў Мінску актывіста анархісцкага руху Рамана Халілава позвай выклікалі ў РУУС Савецкага раёна. Па словах Халілава, там ужо была падрыхтаваная адміністрацыйная справа супраць яго па арт. 17.11 КаАП ("Выраб, распаўсюджванне і (або) захоўванне экстрэмісцкіх матэрыялаў"). Пратакол аб затрыманні таксама быў

загадзя падрыхтаваны. Пры гэтым ніякай экспертызы не праводзілася. "Калі адвакат задала супрацоўніку міліцыі, які вёў справу, пытанне аб тым, ці была прызначаная экспертыза, той адказаў, што гэта вырашыць суд", -- кажа актывіст. Разгляд справы адбыўся ў той жа дзень у Савецкім райсудзе г. Мінска. Суддзя Арцём Бязкішскі пастанавіў, што ўсе 92 матэрыялы, якія захоўваліся ў актывіста, з'яўляюцца экстрэмісцкімі, і пакараў Рамана Халілава арыштам на 10 сутак. Нагодай для справы аб экстрэмісцкіх матэрыялах сталі кнігі, буклеты і газеты, якія напярэдадні міліцыянты знайшлі падчас агляду жытла Р. Халілава. У гэтым пераліку апынулася нават літаратура, якая не мае дачынення да палітыкі. Да прыкладу, кніга "Мастацтва вайны" Сунь-цзы (прызнаная адным з лепшых філасофскіх трактатаў старажытнасці пра мастацтва стратэгіі). "Сацыяльны анархізм супраць анархізму ладу жыцця", брашура "АЭС: уся праўда пра бяспеку. Антыатамны супраціў", часопіс "Аўтаном", улёткі "Як арганізаваць страйк", брашура "Мэта анархізму ў стратэгічным плане", газета "Наша праўда", кніга "Чарнобыльскія ўрокі”.

**11 верасня** суддзя Аршанскага раённага суду Аляксандра Дранькова аштрафавала Таццяну Сячко, грамадскую актывістку з Оршы, якая распаўсюджвала ўлёткі па паштовых скрынях, на 40 базавых велічыняў за парушэнне арт. 22.9 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Нязгодная з рашэннем Аршанскага райсуду, Т. Сячко звярнулася ў Міністэрства інфармацыі за тлумачэннем, ці з'яўляюцца ўлёткі СМІ. У адказе намеснік міністра Уладзімір Матусевіч паведаміў, што паводле ДАСТу такая друкаваная прадукцыя "не з'яўляецца сродкам масавай інфармацыі".

**21 кастрычніка** Віцебскі абласны суд пакінуў у сіле пастанову суду першай інстанцыі ў дачыненні да Таццяны Сячко, нягледзячы на тое, што пры разглядзе касацыйнай скаргі да справы быў далучаны афіцыйны ліст з Міністэрства інфармацыі.

**19 верасня** грамадзянская актывістка Вольга Крапоціна была затрыманая ў цэнтры Гродна чалавекам у цывільным, калі раскладвала на машыны з расійскімі нумарамі ўлёткі з заклікам вярнуць Крым Украіне. В. Крапоціну некалькі гадзін пратрымалі у РАУС, канфіскавалі ў яе 16 улётак "на экспертызу", а потым па месцы яе жыхарства правялі агляд і канфіскавалі ноўтбук і дзве флэш-карткі (пазней тэхніку вярнулі). **18 лістапада** суд Ленінскага раёна г. Гродна аштрафаваў Вольгу Крапоціну на 30 базавых велічыняў паводле арт. 22.9 ч.2 КаАП. Суддзя Дзмітры Бубенчык палічыў раздачу ўлётак "парушэннем закона аб СМІ" . **16 сьнежня** Гарадзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу В. Крапоцінай. Разгляд скаргі, які доўжыўся каля трох хвілін, вёў суддзя А. Козел.

## 9. Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

**28 студзеня** невядомыя хакеры ўзламалі сайт "Цвярозы погляд" -- *spasemstranu.com*, які належыць гомельскай антыалкагольнай грамадскай кампаніі "Хопіць піць -- трэба жыць!". Адміністратар сайта Кастусь Жукоўскі паведаміў, што ўзломшчыкі змянілі лагатып і змясцілі на сайце матэрыял аб людзях з нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыяй. На думку актывістаў антыалкагольнай кампаніі, за ўзломшчыкамі стаяць беларускія спецслужбы: напад быў зроблены ў дзень пахавання пад Гомелем героя Еўрамайдана беларуса Міхаіла Жызнеўскага, пра якога пісалася на сайце.

**13 сакавіка** ў 12 гадзін па беларускім часе невядомыя спрабавалі ўзламаць сервер інфармацыйнага сайта charter97.org, а затым на працягу некалькіх гадзін вялі DDoS-напад з дапамогай рэсурсаў аднаго з расійскіх магістральных правайдэраў. Рэдакцыя

charter97.org звязала гэты напад з актыўным асвятленнем charter97.org падзеяў ва Ўкраіне.

**14 сакавіка** на незалежным магілёўскім інтэрнэт-рэсурсе "Свабодны фармат" з'явіліся два артыкулы, аўтарам якіх быў пазначаны Аляксандр Лянеўскі -- ўладальнік дамена formats.by. Выстаўленыя на сайт публікацыі дыскрэдытавалі і абражалі грамадскіх і палітычных актывістаў Магілёўскай вобласці. Таксама з сайта formats.by зніклі абсалютна ўсе запісы, пачынаючы з 9 верасня 2013 г. Магілёўскія журналісты, якія раней супрацоўнічалі з рэдакцыяй "Свабоднага фармату", заявілі, што пасля старту 10 лютага іх новага праекта "moloko" (milkmag.by), яны не публікавалі ніякіх навін на сайце "Свабодны фармат" і матэрыялы паклёпніцкага зместу былі размешчаныя там шляхам узлому. Адзін з журналістаў, Аляксандр Буракоў, таксама паведаміў, што невядомая асоба рассылала вялікай колькасці людзей правакацыйныя лісты ад яго імя з электроннага псеўдаадрасу.

**19 сакавіка** Аляксандр Буракоў, саўладальнік даменнага імя formats.by, накіраваў заяву ў аддзел па барацьбе са злачынствамі ў галіне высокіх тэхналогій УУС Магілёўскага аблвыканкама з просьбай знайсці і пакараць узломшчыкаў сайта. **7 жніўня** Аляксандра Буракова выклікалі ў Магілёўскі міжраённы аддзел Следчага камітэта. Следчы Максім Рубека паведаміў, што па заяве аб ўзломе сайта "Свабодны фармат" распачатая крымінальная справа, і прадпрымаецца пошук датычных да гэтага асоб. Паколькі для хакерскай атакі выкарыстоўваліся проксі-серверы і IP-адрасы, зарэгістраваныя ў Швецыі і Галандыі, супрацоўнікі міліцыі накіравалі запыты у гэтыя краіны.

**21 сакавіка** рэдактар незалежнага віцебскага сайта dyjalog.info Канстанцін Мардвінцаў паведаміў пра блакаванне гэтага інтэрнэт-рэсурсу. Паводле яго інфармацыі, вірус быў дасланы наўмысна. Апошнія матэрыялы, размешчаныя на сайце, тычыліся выбарчай кампаніі, а таксама скандальнага факту -- масавага атручвання зняволеных у аршанскай калоніі.

**25 сакавіка** ўвечары на працягу некалькіх гадзін быў недаступны сайт незалежнай газеты "Наша Ніва". У гэты дзень у Мінску праходзіла шэсце, прысвечанае Дню Волі, і газета вяла адтуль онлайн-трансляцыю. Падчас блакавання сайта рэдакцыя працавала праз сацыяльныя сеткі. На сайце Беларускай службы "Радыё Свабода" таксама з'явілася паведамленне пра блакаванне сігналу жывой відэатрансляцыі з шэсця. Праблема з праглядам паўстала толькі ў жыхароў Беларусі. Прысутнічалі ўсе прыкметы наўмыснага ўмяшання звонку.

*Блакаванне папулярных інтэрнэт-рэсурсаў адбываецца ў Беларусі амаль падчас усіх важных палітычных падзеяў. Найбольш масава доступ да незалежных навіновых сайтаў абмяжоўваўся ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 2010 г.*

**1 жніўня** рэдакцыя сайта міжнароднага кансорцыюма "ЕўраБеларусь" паведаміла аб хакерскай атацы. На працягу некалькіх дзён невядомыя размяшчалі на сайце eurobelarus.info правакацыйныя матэрыялы пра падзеі ва Украіне і актыўна распаўсюджвалі іх у сацыяльных сетках. Па словах рэдактара выдання Андрэя Александровіча, напад на сайт пачаўся 24 ліпеня. Супрацоўнікі сайта звязвалі гэты інцыдэнт з актыўнай пазіцыяй рэдакцыі ў асвятленні расійска-украінскага канфлікту: з першых дзён супрацьстаяння на сайце актыўна напаўнялася спецыяльная рубрыка "Падзеі ва Ўкраіне. Погляд з Беларусі".

**1 жніўня** Раскамнадзор заблакаваў артыкул на беларускім сайце charter97.org. Як паведаміла рэдакцыі сайта хостынгавая кампанія, блакаванне на тэрыторыі РФ інтэрнэт-старонкі з публікацыяй "Сібіракі хочуць абвясціць "Сібірскую рэспублік" адбылося на падставе патрабавання Генпракуратуры Расіі. На думку расійскіх

пракурораў, інфармацыя ўтрымлівала заклікі да масавых беспарадкаў і экстрэмісцкай дзейнасці.

**14 жніўня** прыблізна а 18.00 у інфармацыйнага інтэрнэт-рэсурсу charter97.org узніклі праблемы з доступам з тэрыторыі Беларусі. Пры выкарыстанні проксі-сервераў сайт быў даступны. Расследаванне рэдакцыі паказала, што блакіроўка адбылася на шлюзе дзяржаўнай сеткі перадачы даных "Белпак" (структурнае падраздзяленне РУП "Белтэлекам"). Доступ аднавіўся пасля 23-х гадзін.

**15 жніўня** сайт "Хартыі-97" на працягу некалькіх гадзін быў зноў заблакаваны па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Кіраўніцтва "Белтэлекама" адмовілася адказваць на пытанні журналістаў аб прычынах блакавання.

*Яшчэ ў красавіку 2011 Генпракуратура Беларусі вынесла пастанову аб абмежаванні доступу да інфармацыйнага сайту "Хартыя'97", спасылаючыся на парушэньне імі заканадаўства - заклікі да ўдзелу ў несанкцыянаваным мерапрыемстве.*

**19 снежня** ў Беларусі ўзніклі праблемы з доступам да шэрагу інфармацыйных беларускіх вэб-рэсурсаў: belaruspartisan.org, charter97.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by і некаторых іншых Інтэрнэт-рэсурсаў.

Рэдакцыі гэтых сайтаў адзначалі, што праблемы ўзнікаюць у карыстальнікаў з Беларусі, для наведвальнікаў з тэрыторыі іншых краін сайты былі даступныя.

**20 декабря** былі 20 сьнежня былі заблакаваныя IP-адрасы сайтаў belapan.by, belapan.com і naviny.by, якія належаць Беларускай інфармацыйнай кампаніі БелаПАН -- афіцыйна зарэгістраванаму ў Беларусі СМІ. Хто і па якой прычыне гэта зрабіў, было не вядома. У сувязі з гэтым БелаПАН распаўсюдзіў заяву, у якой паведамлялася: "... рашэнне аб блакаванні IP-адрасоў маглі прыняць толькі ўлады, паколькі ў Беларусі захоўваецца манаполія дзяржавы на прадастаўленне IP-адрасоў. Кампанія БелаПАН не атрымлівала ніякіх афіцыйных папярэджанняў або апавяшчэнняў аб падрыхтоўцы блакавання". Пасля змены IP-адрасоў, 21 снежня ўдалося сайтам аднавіць працу, аднак прыкладна ў 14.00 таго ж дня былі заблакаваныя і новыя IP-адрасы. Хостынгавая кампанія і дзяржаўны манапаліст "Белтэлекам" заявілі, што не валодаюць інфармацыяй аб гэтым. Спробы атрымаць адказ у Мінінфармацыі таксама былі безвыніковымі. Сайты БелаПАН аднавілі працу, нягледзячы на блакаванне.

У той жа дзень Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце РБ выключыў з рэестра нацыянальнай даменнай зоны інтэрнэт-рэсурс Onliner.by. Паводле паведамлення ААЦ, гэта было зроблена па патрабаванні Міністэрства гандлю ў сувязі з выяўленымі парушэннямі заканадаўства аб гандлі. За дзень да гэтага Мінгандлю паведаміла, што будзе закрываць інтэрнэт-крамы за ўказанне коштаў тавараў ва ўмоўных адзінках.

**22 снежня** ГА "БАЖ" звярнулася ў Генеральную пракуратуру, Упраўленне МУС па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій і Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце з нагоды блакавання шэрагу інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў. У заяве патрабавалася тэрмінова ліквідаваць парушэнне правоў і законных інтарэсаў грамадзян і арганізацый, пацярпелых ад абмежавання доступу да сайтаў, правесці праверку іх незаконнага блакавання, вызначыць асобаў, вінаватых у парушэнні заканадаўства і прыцягнуць іх да ўстаноўленай законам адказнасці, паколькі былі парушаныя шэраг артыкулаў Канстытуцыі, Крымінальнага і Адміністрацыйнага кодэксаў РБ.

**23 снежня** інфармацыйная кампанія БелаПАН распаўсюдзіла заяву ў сувязі з працягам блакавання IP-адрасоў сайтаў belapan.by, belapan.com і naviny.by. У заяве

кампанія запатрабавала ад дзяржаўных органаў расследаваць факты незаконнага блакавання і апублікаваць інфармацыю аб выніках расследавання.

Тым не менш, доступ да некаторых сайтаў быў абмежаваны аж да заканчэння 2014 г., а таксама ў пачатку 2015-га. Верагодна, такая сур'ёзная атака на Інтэрнэт-рэсурсы была звязаная з узмацненнем цікавасці беларусаў да аб'ектыўнай інфармацыі з прычыны чарговага валютнага крызісу ў краіне.